**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№29(641)**
**19 ліпеня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



**Да Дня беларускага пісьменства і друку глыбоцкі сабор Нараджэння Багародзіцы зазяе новай прыгажосцю. На здымку: прамысловыя альпіністы робяць афарбоўку фасадаў сабора.**
*Фота Ул. Скрабатуна.*



# Запрашаем на Адпуст св. Ганны ў Мосар

У Мосары ў 1775-90 гадах Роберт і Ганна Бжастоўскія пабудавалі прыгожы палац у стылі класіцызму, які, на жаль, не захаваўся, а ў 1792 годзе фундушам у 1000 дукатаў чырвонага золата яны фундавалі каталіцкую святыню пад тытулам святой Ганны, нябеснай апякункі жонкі фундатара.

Святкаванне ва ўспамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі, у гэтым годзе будзе па наступным раскладзе:

**28 ліпеня (субота).**

**13:00** – Святая Імша з казаннем.
**14:00 – 17:30** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта ў капліцы.
**18:00** – Святая Імша з казаннем.
**19:00** – Урачыстае адкрыццё і асвячэнне "Дома пілігрыма".

**29 ліпеня (нядзеля).**

**10:00** – Святая Імша аб цвярозасці беларускага грамадства.
**11:00 – 12:30** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта ў капліцы.
**13:00** – Урачыстая Святая Імша.

**На адпустовую Урачыстасць усіх сардэчна запрашаем!!!**

Падрабязная інфармацыя на сайце: **http://mosar.vickyblog.com**

*Ксёндз Аляксей Юркайць, адміністратар парафіі Мосар.*





## МНС інфармуе
**на 17.07.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 671;
Гібель людзей – 86, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 3633,2 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 28;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 198 850 000 руб.

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

# Інфармацыя для ўладальнікаў мотатранспарту

Практыка паказвае, што на працягу шэрагу гадоў больш за 60 адсоткаў зарэгістраваных у ДАІ матацыклаў не эксплуатуюцца. Так, толькі ў нашай вобласці зарэгістравана больш 1,5 тысяч адзінак мотатэхнікі, з якіх на тэхагляд прадстаўлена меней за 500. У сувязі з гэтым Дзяржаўтаінспекцыя звяртаецца да ўладальнікаў матацыклаў з просьбай здымаць з уліку ДАІ мотатранспарт, які прыйшоў у непрыдатны для эксплуатацыі стан. Для гэтага досыць напісаць заяву і здаць тэхнічны пашпарт і нумарны знак на апорны пункт аховы грамадскага парадку (участковаму інспектару) у сельскім Савеце па месцы Вашага жыхарства (сам матацыкл падаваць у ДАІ не трэба). У сельскім Савеце маюцца ўзоры заяў на здыманне з уліку мотатранспарту.

Для рэгістрацыі ў ДАІ мапеда ўладальніку неабходна мець: рахунак-даведку, копію грузавой мытнай дэкларацыі і ўхвалу тыпу транспартнага сродку, якая выдадзеная прадаўцом.

У тым выпадку, калі Вы набылі мапед да 2012 года і ў Вас адсутнічаюць вышэйпералічаныя дакументы, для рэгістрацыі Вам неабходна мець пры сабе толькі пашпарт грамадзяніна Рэспублікі Беларусь.

Важная інфармацыя для жыхароў сельскай мясцовасці: пры дасягненні 16-гадовага ўзросту і наяўнасці медыцынскай даведкі Вы можаце быць дапушчаныя да здачы іспытаў у ДАІ на атрыманне пасведчання кіроўцы катэгорыі «А» «АМ» без праходжання адпаведнага навучання. На базе аддзялення Дзяржаўтаінспекцыі (уваход з боку Дзяржстраха) і на базе сельскіх Саветаў ствараюцца групы з ліку моладзі для навучання Правілам дарожнага руху і рашэнні білетаў па Правілах дарожнага руху з мэтай больш якаснай падрыхтоўкі да іспыту.

За атрыманнем дадатковай інфармацыі тэлефануйце па тэл. 2-27-78.

Нагадваем уладальнікам мотатранспарту, што паводле дзейснага заканадаўства **штрафныя санкцыі за кіраванне матацыклам:**

● без права кіравання – да 2.000.000 рублёў, паўторна – да 5.000.000 рублёў. Такая ж адказнасць прадугледжана і за перадачу кіравання асобам, якія не маюць правы кіравання, альбо асобам у нецвярозым стане.

● без складзенай дамовы абавязковага страхавання – 500.000 рублёў;

● без дакументаў – да 200.000 рублёў;

● без рэгістрацыі ці тэхнічнага агляду – да 200.000 рублёў;

● без моташлема – да 100.000 рублёў

Інфармуем, што З 21 траўня па 30 кастрычніка Дзяржаўтаінспекцыя праводзіць комплекс прафілактычных мерапрыемстваў, накіраваных на папярэджанне дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам двухколавых транспартных сродкаў.

Мёрскі раён

# Новае жыццё мястэчка

■ Станіслаў Раманчук

**У населеных пунктаў, як і ў людзей, бываюць розныя перыяды росквіту і заняпаду.**

У гэтым сэнсе райцэнтру Мёры пашанцавала, хоць у статусе горада ён знаходзіцца зусім нямнога часу, усяго 40 гадоў. Ды і гарадскім пасёлкам гэта паселішча стала таксама ў пасляваенны час – у 1957 годзе, аднак мястэчку хутка будзе 500 гадоў, згодна адпаведных дакументаў Вялікага Княства Літоўскага. Аб гэтым узгадвалася тут на нядаўніх урачыстасцях з нагоды юбілейнага Дня горада, якія праходзілі ў мясцовай прыроднай каштоўнасці – у парку "Паўвостраў" на беразе мясцовага возера. Адным з самых значных мерапрыемстваў свята мёрцаў стала ўрачыстае адкрыццё мемарыяльнай дошкі знакамітаму земляку, Герою Савецкага Саюза, контрадміралу, Ягору Томку. У савецкі час ён камандаваў на Паўночным флоце дывізіяй ракетных падводных лодак і правёў асабіста пераход субмарын пад тоўстымі льдамі Арктыкі з Паўночнага на Ціхаакеанскі флот. Ушанаваць яго гонуюпамяць прыехалі ў райцэнтр саслужыўцы і выхаванцы Вышэйшага ваенна-марскога вучылішча з Санкт-Пецярбурга, якім ён потым камандаваў. Падчас свята вельмі шматлюдна і прыгожа было на беразе возера, дзе прайшлі народныя гулянні, цікавая выстава рэдкіх кніг, працаваў горад народных майстроў з суседніх раёнаў. На Дзень горада парадавала і мясцовая футбольная каманда "Мёры", якая ў чарговым матчы чэмпіянату Беларусі на гарадскім стадыёне з лікам 1:0 перамагла выхаванцаў славутага "Дынама-2" (Мінск).




Пастаўскі раён

# Ураган разбушаваўся

■ Кастусь Александровіч

**Апошнім часам у розных кутках Беларусі прыродная стыхія ўсё часцей паказвае свой грозны характар.**

Вось і ў Пастаўскім раёне не паспелі парадавацца жыхары гарпасёлка Лынтупы адкрыццю ў іх утульнага прыватнага кафэ "Фартуна" сям'і Савічаў, як ліпеньскім вечарам на іх мястэчка наляцеў сапраўдны ўраган. Па сведчанні лынтупчан, раптам стала цёмна каля шасці гадзін вечара і было даволі страшна. Шквалісты вецер парывамі да 20 метраў у секунду пад магутныя раскаты грому і ўдары маланак паваліў у гарпасёлку дзясяткі вялізных дрэў, абарваў шмат дзе правады, пашкодзіў дахі жылых дамоў і агароды людзей. З неба ліло як з вядра на галаву: за кароткі час там выпала на адзін квадратны метр тэрыторыі 58 літраў вады, што складае амаль 70 % месячнай нормы ападкаў. Адзін з парнікоў аднесла ветрам далёка ў поле. Асабліва дасталася мясцоваму парку і Лынтупскаму спіртзаводу, які ўваходзіць цяпер у Віцебскі лікёра-водачны завод "Прыддзвінне". Пад напорам стыхіі абвалілася. як картачны домік, нават адна цагляная заводская сцяна-агароджа. Павылятали пластыкавыя вокны, былі пашкоджаны дахі прадпрыемства.Большасць жыхароў засталася без электрычнасці, на працягу сутак не працавала мабільная сувязь. На Пастаўшчыне ў той вечар добра прыбіла і пасевы, шмат пустак нарабіла бура і жыхарам вёскі Свідна ў Дунілавіцкам сельсавеце, дзе таксама былі адключаны ад электрычнасці трансфарматарныя падстанцыі і хапала працы аварыйным брыгадам электрыкаў і сувязістаў. На шчасце, пацярпелых сярод людзей не было.

Шаркоўшчынскі раён

# Дачакаліся месц адпачынку

■ Чэслаў Якубовіч

**Прыкметай нашага часу стала тое, што і ў глыбінцы памаладзелі, абнавіліся буйныя населены пункты.**

Толькі ў чыста сельскагаспадарчым Шаркоўшчынскім раёне паспелі абуладкаваць 13 так званых аграгарадкоў. Стаў лепей выглядаць і сам райцэнтр, але ўім не было свайго стадыёна і ўзнікалі пэўныя праблемы, дзе і як праводзіць раённыя масавыя спаборніцтвы, футбольныя матчы. Сёлета летам гэта застарэлае пытанне нарэшце ўдалося вырашыць. Праўда, у мясцовым бюджэце сродкаў для рэканструкцыі ранейшай спартыўнай арэны не набіралася. Таму вырашылі пайсці па іншаму шляху і пашырыць існаваўшы кампактны стадыён сярэдняй школы № 1. Метадам народнай будоўлі на ім паклалі новыя лёгкаатлетычныя дарожкі і зрабілі сапраўднае футбольнае поле з дрэнажом.

Вакол спартыўнага збудавання зрабілі і месцы для гледачоў. У райцэнтры з удзелам кіраўніцтва раёна днямі прайшло ўрачыстае адкрыццё абноўленага стадыёна, які адначасова стане выкарыстоўвацца і як галоўны стадыён раёна. У той самы выхадны дзень была адкрыта і новая зона адпачынку ў раёне вуліцы Першамайскай, якая стала цалкам пешаходнай зонай. У гэтым кутку райцэнтра былі пашыраны штучны вадаём, усталявалі для людзей альтанкі, лавачкі, качэлі для дзетвары. Тут можна і пакупацца ў спёку, пашырэнне дзіцячай пляцоўкі прадоўжыцца, а восенню вадаём будзе зарыблены. З нецярпеннем чакаюць жыхары гарпасёлка, калі неўзабаве ў іх запрацуе новая райбальніца.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 19.07.12 | | | | Пятніца 20.07.12 | | | | Субота 21.07.12 | | | | Нядзеля 22.07.12 | | | | Пнд.23.07.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +10 | +14 | +16 | +17 | +12 | +16 | +18 | +17 | +13 | +16 | +20 | +18 | +12 | +15 | +19 | +17 | +9 | +16 | +20 |
| Ціск | 741 | 740 | 738 | 735 | 737 | 737 | 738 | 738 | 741 | 744 | 746 | 746 | 747 | 748 | 749 | 750 | 752 | 753 | 752 |
| Вільготнасць | 89 | 81 | 79 | 83 | 95 | 89 | 62 | 71 | 93 | 85 | 52 | 68 | 91 | 86 | 52 | 61 | 88 | 70 | 45 |
| Вецер м/сек | 2 З | 3 Ю | 4 Ю | 3 Ю | 3 З | 4 Ю-З | 6 Ю-З | 4 Ю-З | 3 З | 3 З | 3 З | 0 ШТЛ | 0 ШТЛ | 2 С | 3 З | 2 С | 2 С | 2 Ю | 5 З |

# Лічба нумара

**1350** – столькі толькі міліцыянераў удзельнічалі ў забеспячэнні бяспекі на чарговым XXI Міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску". Новае кіраўніцтва абласной міліцыі на час гэтага песеннага, у асноўным папсовага шоу ў два разы павялічыла ў горадзе над Дзвіной колькасць міліцэйскіх патрулёў, што дало падставу злым языкам гаварыць аб паліцэйскім характары дзяржавы. А вось самі гараджане ведаюць, што каб трапіць на купленыя месцы ў Летнім амфітэатры, уладальнікам квіткоў трэба было прайсці праз некалькі кантрольна-прапускных пунктаў з рамкамі-металашукальнікамі.

Такія вось рэаліі нашага часу, што праваахоўным органам прыходзіцца падчас масавых мерапрыемстваў з удзелам некалькіх тысяч чалавек арганізоўваць рэжымна-абмежавальныя тэрыторыі. Не вельмі ў душы прыемна, калі цябе людзі ў форме пільнаглядаюць, правяраюць сумкі. Падчас фестывалю абмяжоўваўся рух грамадскага транспарту ў цэнтры Віцебска, працавалі 115 камер відэаназірання. З-за гэтага многія жыхары падчас усяго такога людскога тлуму стараліся з'ехаць з горада. Праўда, існуе і іншая катэгорыя фанатаў "Славянскага базару", якія цэлы год адкладваюць грошы, каб трапіць на канцэрты сваіх любімых выканаўцаў.

Кошт білетаў, дарэчы, сёлета вагаўся у межах ад 20 да 750 тысяч рублёў. Як і раней, іх можна было набываць і праз Інтэрнэт. У прыватнасці, у мінулым годзе такім чынам рэалізавалі больш 10 тысяч квіткоў. Аднак, каб не пуставалі канцэртныя залы, па існуючай у нас практыцы, раёнам вобласці спусцілі заданні рэалізаваць па некалькі соцень дарагіх білетаў. Увогуле для культработнікаў з глыбінкі гэты фестываль ужо ў пячонках: на працягу тыдня і болей трэба было ў вызначаных месцах граць і спяваць, дэманстраваць народныя рамёствы пад палячым сонцам і начаваць дзе прыйдзецца, бо не хапае, як і раней, гасцініц у Віцебску і месц нават у інтэрнатах для ўсіх.

Але, нягледзячы на гэта, абласны цэнтр годна падрыхтаваўся і сёлета да сустрэчы шматлікіх гасцей. Адных выканаўцаў конкурсу маладых спевакоў эстраднай песні "Віцебск-2012" было 21. Для іх і для іншых, у асноўным вядомых расійскіх зорак эстрады, пастараліся прывесці ў парадак фестывальныя аб'екты, месцы пражывання і харчавання, аказання медыцынскай дапамогі. У сярэдзіне ліпеня ў абласным цэнтры акрамя Летняга амфітэатра з'явіўся па традыцыі вялікі "Горад майстроў", не менш маштабны "Беларускі панадворак", канцэртная сцэна на плошчы Перамогі і нават перасоўны цырк на пляцоўцы ля Лядовага палаца.

Іншая справа, што год за годам на гэты фестываль, які мае і пэўнае палітычнае значэнне і які пастаянна наведвае А. Лукашэнка, траціцца велізарныя сродкі. А вось грошай на культуру ў сельскай мясцовасці паранейшаму выдзяляецца па астаткавым прынцыпе. Не меншая бяда, што толькі ў нас на Віцебшчыне з-за старэння і вымірання насельніцтва штогод пры—ходзіцца закрываць дзясяткі клубаў, вясковых бібліятэк. Арганізатары базару прызнаюць, што сёлета расходы на яго правядзенне павялічыліся і да поўнай самаакупнасці яшчэ далёка.

З іншага боку, аргкамітэт стараецца задаволіць густы ўсіх і пашырае тэатральную афішу і сваю кінапраграму. Сёлета быў праведзены вечар рускага рамансу і традыцыйны "Фестываль без границ" у абласной філармоніі. У цэлым фестывальная праграма была разнастайнай, а найболей народу спадабаліся вечар выканаўцаў шансону, канцэрт Веркі Сярдзючкі, юбілейны канцэрт Льва Лешчанкі і выступленне тэатра пародый яганага сябры Уладзіміра Вінакура. На сольныя канцэрты расійскіх зорак можна было трапіць за 160 – 300 тысяч рублёў.

Традыцыйна цэнтр фестывальнага жыцця быў зонай цвярозасці, увогуле з падвыпіўшымі грамадзянамі не цырымоніліся. Парадак быў забяспечаны, не тое, што раней, калі менавіта ў абласным цэнтры некалькі гадоў назад прагучалі выбухі мясцовых хлопцаў, якія потым дабраліся і да мінскага метро. Але сёлета ў Віцебску зноў бавіў баль значны міжнародны форум мастацтваў. Віцебск у каторы раз пацвердзіў свой статус аднаго з культурных сталіц Беларусі.

## Дзень за днём

**Летам ва ўсім свеце прадукты харчавання становяцца танней і толькі ў Беларусі даражэюць. Аб стварэнні сумеснага холдынгу “Расбелаўта” нарэшце дамовіліся Мінскі і Камскі аўтамабільныя заводы, наша прадпрыемства ацанілі ў 1,1 млрд. долараў. Расійскае аб’яднанне вытворцаў “Саюзмалако” зноў запатрабавала тэрмінова прыпыніць імпарт шэрагу малочных прадуктаў з Беларусі. У выніку чарговай амністыі з месцаў пазбаўлення волі выйдуць 2880 чалавек, якім выдадуць беларускія пашпарты і паспрабуюць усіх працаўладкаваць. Для студэнтаў у Мінску з ліпеня адмянілі бясплатны праезд, але да парламенцкіх выбараў гэту льготу могуць вярнуць. Увагу ўсяго чалавецтва прыцягнула летняя Алімпіяда ў Лондане.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** З прапановай экс-генсека ААН Кофі Анана аб стварэнні сірыйскага ўрада нацыянальнага адзінства без Б. Асада пагадзілася, як паведаміла агенства Рэйтар, і Расія.

**Іспанія.** Урад краіны афіцыйна папрасіў Еўрасаюз аказаць фінансавую дапамогу ў памеры да 100 мільярдаў еўра для стварэння “падушкі бяспекі” банкаўскай і фінансавай сістэмы.

**Бельгія.** Вярхоўны камісар ЕС па знешняй палітыцы К. Эштан і прэм’ер-міністр Польшчы Д. Туск выступілі ў абарону арыштаванага ў Гродне журналіста Андрэя Пачобута.

**Грузія.** Глава МЗС краіны Грыгол Вашадзе заявіў, што ствараемы Масквой Еўразійскі саюз ці “трансфарміраваны СССР” небяспечны для суверэнітэту і бяспекі Грузіі, Украіны.

**Узбекістан.** Краіна ўзяла курс на збліжэнне з Захадам і зноў прыпыніла сваё членства ў АДКБ, адкуль раней выйшлі Грузія з Азербайджанам, а засталіся яшчэ 6 дзяржаў СНД.

**Венесуэла.** На афіцыйнай цырымоніі ў палацы Мірафлорэс А. Лукашэнка паабяцаў, што ў яго сына Мікалая ёсць магчымасць пераняць эстафету гадоў праз 20-25.

**Швейцарыя.** Пастаянны прадстаўнік РБ пры ААН М. Хвастоў заявіў у Жэневе, што сітуацыя з дэмакратыяй у Беларусі быццам лепшая па многіх параметрах, чым у Еўропе.

**Францыя.** Новы ўрад краіны павялічыў зарплаты французам, за 1 гадзіну працы ім трэба плаціць мінімум 9 еўра 40 цэнтаў на рукі без падаткаў, пры Сарказі, які кіраваў краінай 5 гадоў так не было.

**ЗША.** Агенты ФБР выявілі міжнародную злачынную групу з 24 камп’ютарных злодзеяў-хакераў, затрымалі 11 амерыканцаў, астатніх - у Англіі, Японіі, іншых краінах свету.

**Аўстралія.** На працягу тыдня перавярнулася ў моры раніцай другое па ліку судна са 133 нелегальнымі мігрантамі, знайшлі целы 10 загінуўшых, астатніх афганцаў выратавалі.

**Егіпет.** Новыя ўлады на чале з прэзідэнтам-ісламістам М. Мурсі паабяцалі не пазбаўляць замежных турыстаў спіртнога, ім дазволена з’яўляцца на пляжах у купальніках-бікіні.

**Расія.** Больш ста вядомых дзеячаў расійскай культуры і мастацтва заступіліся за арыштаваных за хуліганства траіх дзяўчат, аўтарак песні “Багародзіца, Пуціна прагані!” .

**КНДР.** Ганаровай прэміяй імя Кім Чэн Ira пасмяротна ўзнагародзілі 14-гадовую школьніцу, якая загінула, ратуючы падчас паводкі партрэты лідараў гэтай дзіўнай краіны.

**ЗША.** Вучоныя ўніверсітэта Дз’юка стварылі самую малую ў свеце гігапіксельную камеру памерам 16х16 мм і зрабілі фота-панараму горада, на якой бачны нават нумары машын.

**Кітай.** У пячоры на паўднёвым усходзе краіны археолагі знайшлі фрагменты самага старажытнага ў свеце глінянага гаршка для прыгатавання ежы, ўзростам 20 тысяч гадоў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Магілёў.** На сустрэчы з грамадскасцю польскі пасол у РБ Лешак Шарэпка заявіў, што афіцыйны Мінск не хоча дыялогу з Еўропай і надакучыў многім, лепш мець справы з РФ.

**Мінск.** Лідар ЛДПБ Сяргей Гайдукевіч заявіў, што выбараў у Беларусі няма, ужо ўсе акругі распісаныя і яму вядомы спіс тых, хто павінен перамагчы на парламенцкіх выбарах.

**Магілёў.** Злоўжыванне службовым становішчам суд Ленінскага раёна пакараў 3 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці экс-намесніка старшыні гарвыканкама па будаўніцтве.

**Мінск.** Самымі правальнымі сёлета сталі вынікі цэнтралізаванага тэсціравання па матэматыцы, дзе 0 балаў атрымалі амаль 800 чалавек, 11 тысяч не набралі парог у 7 балаў.

**Гомель.** У мікрараёне са старымі дамамі-“хрушчоўкамі” вырашылі стварыць цэлы парк савецкага перыяду з тэлефоннымі будкамі, лаўкамі, латкамі квасу мінулых часоў СССР.

**Мінск.** Рэдактара газеты “Прэссбол” Уладзіміра Беражкова выклікалі ў міліцыю для дачы тлумачэнняў, бо ён заявіў, што кожны год беларускі клубны хакей праядае 70 млн. USD.

**Б а б р у й с к .** Адміністрацыя мясцовай калоніі № 2 увяла неафіцыйную забарону на размовы іншых зняволеных з праваабаронцам Алесем Бяляцкім, каб ізаляваць яго ад людзей і тут.

**Мінск.** Сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч заявіў, што на выбары болей не пойдзе, бо яны ў нас прафанацыя, рэферэндум-95 па мове незаконны і гэта злачынства перад нацыяй.

**Гродна.** Групастудэнтаў-першакурснікаў адзначыла заканчэнне веснавой сесіі жудаснай аварыяй ля горада, у якой загінула 18-гадовая дзяўчына, 6 чалавек атрымалі раненні.

**Нясвіж.** У культурнай сталіцы Беларусі на працягу двух дзён праходзіў упершыню форум айчынных прафесійных тэатраў “Тэатр Уршулі Радзівіл” на падмостках мясцовага замка.

**Баранавічы.** Зазбыт 0,41 грама псіхатропнага рэчыва амфетаміну суд пакараў 10 гадамі пазбаўлення волі непрацуючага 28-гадовага гараджаніна, ён сваю віну не прызнаў.

**Мінск.** У лік удзельнікаў Алімпіяды ў Лондане Міжнародная федэрацыя тэніса ўключыла беларуску В. Азаранку ў турніры жанчын і М. Мірнага з А. Бурым у мужчынскім парным.

**Магілёў.** Мітрапаліт Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч асвяціў і ўласнаручна заклаў прывезены са святынь Італіі вуглавы камень у будоўлю новага касцёла св. Антонія.

**Мінск.** Вядучая актрыса і прыма Купалаўскага тэатра Святлана Зелянкоўская прызналася, што не зарабляе і 2,2 млн. рублёў у месяц, хоць выконвае ў спектаклях галоўныя ролі.

**Барысаў.** Беларускаму чэмпіёну па футболе БАТЭ у 2-м кваліфікацыйным раўндзе Лігі чэмпіёнаў УЕФА зноў трапіўся мацнейшы клуб Македоніі “Вардар” з яе сталіцы Скоп’я.

# У Віцебскай вобласці вызначаныя месцы, забароненыя для збору подпісаў за кандыдатаў у дэпутаты



■ Дыяна Курыло, БЕЛТА

**Віцебскі гарвыканкам вызначыў месцы, забароненыя для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага збору Беларусі пятага склікання, паведаміў карэспандэнту БЕЛТА начальнік аддзела ідэалагічнай працы Віцебскага гарвыканкама Дзяніс Глуткін.**

У адпаведнасці з артыкуламі 24, 61 і 65 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь Віцебскі гарвыканкам прыняў рашэнне пра забарону правядзення пікетаў на пляцах Перамогі, Леніна, Волі, 1000-годдзя, у парках Пераможцаў, Партызанскай славы ім. М.Ф.Шмырова, а таксама на адлегласці 150 м ад будынкаў мясцовых прадстаўнічых, выканаўчых і распарадчых органаў, консульскіх устаноў, судоў, органаў пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абароназдольнасць, бяспеку дзяржавы, жыццядзейнасць насельніцтва. Акрамя таго, зборшчыкі не змогуць збіраць подпісы выбаршчыкаў на тэрыторыі арганізацый аховы здароўя, на аб'ектах чыгуначнага транспарту, у падземных пешаходных пераходах і ў месцах правядзення гарадскіх кірмашоў, культурна-масавых і спартыўных мерапрыемстваў. Забарона будзе дзейнічаць з 15 ліпеня па 13 жніўня бягучага года.

Каментуючы прынятае рашэнне, Дзяніс Глуткін падкрэсліў, што выбар месцаў, дзе забаронена пікетаванне, абумоўлены перш чынам неабходнасцю забеспячэння бяспекі грамадзян. Збор подпісаў пачнецца 15 ліпеня, тым часам у горадзе яшчэ будуць працягваць мерапрыемствы фэсту мастацтваў «Славянскі базар», якія праходзяць у тым ліку і на імправізаваных канцэртных пляцоўках - вуліцах і пляцах горада.

Усе гарадскія і раённыя выканкамы Віцебскай вобласці вызначылі месцы, забароненыя для правядзення пікетавання з мэтай збору подпісаў выбаршчыкаў па вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага зборy Беларусі пятага склікання. Адпаведныя рашэнні змешчаны на афіцыйных сайтах. Выканкамы ў большасці выпадкаў не дазволілі збор подпісаў на аб'ектах чыгуначнага транспарту, на адлегласці 50-150 м ад будынкаў выканкамаў, судоў, органаў пракуратуры, тэрыторый арганізацый, якія забяспечваюць абароназдольнасць, бяспеку дзяржавы, а таксама жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, прадпрыемствы вода-, цяпло- і энергазабеспячэння, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, установы адукацыі, на тэрыторыі арганізацый аховы здароўя, рынкаў). Некаторыя выканкамы наклалі вета на прысутнасць зборшчыкаў подпісаў на цэнтральных пляцах. Такія ўмовы, напрыклад, прынятыя акрамя Віцебска ў Полацку, Наваполацку, Паставах.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На рэканструкцыю 228 ферм вобласці не хапае грошай, шыфера закупілі пакуль толькі палову ад патрэбнасці, цэменту – 60 % і нават лесу 80 %, сдача аб’ектаў - восенню.

**Наваполацк.** Фірма “Белсплат” акрамя адкрыцця свайго новага завода па вытворчасці да 6 тысяч стальных дзвярэй у месяц заклала побач памятную алею з бяроз і каштанаў.

**Глыбокае.** На добраўпарадкаванне набярэжнай возера Кагальнае, будаўніцтва палігона цвёрдых камунальных адходаў раёну з фонду аховы прыроды выдзелілі больш за 2 мільярды рублёў.

**Полацк.** Міліцыя пачала праверку факта самагубства 16-гадовага школьніка, выдатніка вучобы з добрападзейнай сям’і, які кінуўся днём пад праходзячы грузавы поезд.

**Мёры.** У адной з прыгранічных вёсак раёна на пагранічнікі сумесна з міліцыяй затрымалі злодзея і злоснага аліментшчыка з Полацка, які ўчыняў злачынствы на прасторах СНД.

**Докшыцы.** У лясным масіве паблізу Бягомля апергрупа затрымала браканьера, які днём з незарэгістраванага карабіна калібру 7,62 мм застрэліў дзікага кабана вагой 200 кілаграм.

**Талачын.** Пасля пераўтварэння вёскі Нізкі Гарадзец у аграгарадок у ёй закрылі школу, ліквідавалі 2 фермы з чатырох, а сам саўгас аб’ядналі з суседнім калгасам “Рыдомльскі”.

**Чашнікі.** Супрацоўнікі райаддзела міліцыі затрымалі жывадзёра, які адрэзаў дзюбкі 26 малым птушкам бакланам, пасля гібелі іх прышлося пахаваць у магільніку для жывёл.

**Глыбокае.** З памяшканняў камернага тыпу перавялі ўпершыню ў атрад мясцовай калоніі №13 асуджанага на 2 гады лідара “Маладога фронту” Д. Дашкевіча.

**Шуміліна.** У вёсцы Мікалаёва на месцы расстрэлу ў 1941 годзе больш тысячы вязняў Беразвецкай турмы ўшанавалі іх памяць, да крыжа ахвяр сталінізму ўсклалі вянкі і кветкі.

**Наваполацк.** За злоўжыванне ўладай, выплату кампенсацыі за гібель супрацоўніка ў 25 разоў меншай, чым па закону, распачалі крымінальную справу супраць кіраўніка ААТ .

**Верхнядзвінск.** У створаным 30 гадоў у райцэнтры ўнікальным дэндрапарку мясцовага лясгаса ўстанавілі спецыяльную сістэму для паліву 312 рэдкіх дрэў, якія прыжыліся тут.

**Віцебск.** Павышаным попытам у пасажыраў зноў стаў карыстацца спецыяльны хуткі поезд Віцебск-Мінск, за дні “Славянскага базару” ён перавязе да 100 тысяч, у дарозе 3,5 гадзіны.

**Орша.** На тэрыторыі Купалаўскага мемарыяльнага музея-запаведніка “Ляўкі” прайшло чарговае абласное свята паэзіі з удзелам творцаў і вядучых народных калектываў раёна.

**Віцебск.** У былым лагеры смерці ў раёне 5 чыгуначнага палка горада, дзе фашысты вайной замучылі больш за 80 тысяч чалавек, урачыста адкрылі капліцу з набат-звонам.

*Служба інфармацыі “ВГ”.*

■ Ул. Скрабатун

# Напалеон у Глыбокім

**Заканчэнне.** Пачатак у №28(640) 12 ліпеня 2012 года.

У шматлікай літаратуры прысутнічае згадка аб візіце Напалеона ў Беразвечча, дзе ён прысутнічаў у атачэнні шматлікай мясцовай шляхты. Нібыта, любуючыся краявідамі Беразвечча, яго манастыром і цудоўнай прыгажосці царквой Пятра й Паўла, сказаў наступныя словы:

*“Калі б гэтае месца належала мне, я б загадаў наладзіць адсюль суднаходныя зносіны з Дзвіной і такім чынам з гэтага нязначнага цяпер месца утварыў бы адзін з прыгажэйшых выгаднейшых гарадоў Еўропы”.*

У Беразвеччы Напалеон пакінуў атрад жаўнераў для нарыхтоўкі фуражу і правіянту.

Наколькі такое выказванне было насамрэч – не будзем спрачацца. Галоўнае, зразумела –Напалеон у Глыбокім быў не на варожай тэрыторыі, а на саюзнай яму тэрыторыі. Нават такія выказванні сведчаць толькі аб тым, што адраджэнне свайго краю, мясцовая шляхта звязвала не з рускімі ,а з французамі, і гэтая рамантычная легенда, у рэальнасць якой можна і паверыць, запісаная кімсьці з мясцовых, – таму сведчанне. Напалеон даваў надзею. Сярод прыхільнікаў адраджэння Вялікага Княства Літоўскага быў і Дэдэрка, біскуп мінскі.

Каталіцкае духавенства было не задаволенае змяненнем свайго статусу ў сувязі з пераходам у новую дзяржаву, што сталася пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Святары прымалі ўдзел у тайных таварыствах, а ў вайне 1812 года многія сталі на бок Напалеона. Сярод тых, хто падтрымліваў французскага імператара, быў і Якуб Ігнацы Дэдэрка, біскуп мінскі. У час вайны, 18 ліпеня 1812 года, ён абвесціў з амбона мінскай катэдры «Мінскую канфедэрацыю» і арганізаваў выезд мінскіх грамадзянаў у Глыбокае, каб прывітаць Напалеона.

Гісторык Аляксандр Івашчонак, адмысловец па тэме “Глыбоцкі кляштар айцоў кармелітаў босых”, лічыць, што мэтай паездкі біскупа Дэдэркі ў Глыбокае было “ратаванне касцёльных маёнткаў, якія забралі рускія. Гэта было найважнейшым матывам яго візіту сюды, ён хацеў гарантыяў ад Напалеона, што ўсе касцёльныя маёнткі, забраныя пасля падзелаў Рэчы Паспалітай ,ізноў будуць вернутыя каталіцкаму Касцёлу”.

Учынак каштаваў Якубу Дэдэрку кіраўніцтва дыяцэзіі. Але гэта не спыніла яго. Дэдэрка разам з французскім атрадам ездзіць па паветах і агітуе ўступаць у армію Напалеона.

У часе побыту Напалеона ў Глыбокім разам з ім было нямала найвышэйшых асобаў Францыі. Прысутнічалі тут і прадстаўнікі Камісіі Часовага Ураду Вялікага Княства Літоўскага, якія амаль усюды былі з Напалеонам, бо яны лічылі, што ад іх залежыла, каб нановызваленыя землі з-пад расейцаў павярталіся да ВКЛ, а не каб тыя землі былі якімі-небудзь французскімі ўладаннямі ці дадаткам да Варшаўскага Княства, альбо яшчэ горш – сталі прадметам палітычных гульняў паміж Расеяй і Францыяй, таму гэтыя прадстаўнікі паўсюдна ездзілі за Напалеонам. Фактычна выпрошвалі, угаворвалі Напалеона не толькі аднаўлення ВКЛ, але й далучэння пэўных зямель да яго.

Магчыма, каб маральна аддзячыць прыёру за гасцінны прыём, Напалеон, пакідаючы Глыбокае, глянуўшы апошні раз на касцёл Унебаўзяцца Найсвяцейшай Марыі Панны, сапраўды сказаў: *“Шкадую, што не магу ўзяць яго з сабой у Парыж; храму Notre Dame не сорамна было б мець яго “ў суседстве”.*

Ёсць цікавы момант з побыту Напалеона ў Глыбокім, на што звярнуў увагу аўтара даклада гісторык Аляксандр Івашчонак. Дамінік Радзівіл, які быў уладальнікам горада Глыбокае і вялікім паплечнікам французаў, дазволіў карыстацца ўсімі сваімі маёнткамі. У горадзе Глыбокім быў палац Радзівілаў, але Напалеон затрымаўся ў Кармелітаў. У гэтым ёсць пэўная таямніца. Чаму не спыніўся ў Радзівіла, а ў Кармелітаў? Бо вельмі цікава – Дамінік дазволіў французам карыстацца са сваіх маёнткаў, а Напалеон спыніўся ў Кармелітаў, ды яшчэ выдае дакумент, які забараняе марадзёрства. Дзіўна! Мог жа спакойна карыстацца з усяго, што ёсць наўкола – у горадзе і мястэчку – рэквізаваць усё, што заўгодна.

*– Я тут бачу больш палітыку Кармелітаў, ды і прысутнасць біскупа Дэдэркі, які так намагаўся вярнуць усе касцельныя маёнткі,*– рэзюмуе Аляксандр Івашчонак. *Усё гэта сведчыць, што Кармеліты не аддалі свайго маёнтка французам, а акрамя таго атрымалі дакумент, які забараняў французам карыстацца з гэтых кармеліцкіх маёнткаў.*

## Колькі дзён Напалеон правеў у Глыбокім?

Ёсць розныя звесткі наконт колькасці дзён, якія Напалеон правёў у мястэчку Глыбокім. Адны цвердзяць – 7 дзён, іншыя –3. Некаторыя літаратурныя крыніцы цвердзяць, што Напалеону для яго штаб-кватэры былі выдзеленыя два пакоі, іншыя крыніцы, якіх больш, сцвярджаюць – тры.

Напрыклад, Лявонцій Ракоўскі, рускі пісьменнік, ураджэнец Глыбокага, у рамане “Кутузаў” (1960) прысвяціў побыту Напалеона ў Глыбокім такія радкі:



**Якуб Ігнацы Дэдэрка, біскуп мінскі, вялікі прыхільнік аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага. Прыязджаў у Глыбокае на сустрэчу з Напалеонам.**

*“У Глыбокім, арганізоўваючы склады прыпасаў, снарадаў і зброі, Напалеон пражыў пяць дзён. Мястэчка Глыбокае вельмі спадабалася Напалеону і яго штабу. Напалеон жыў у вялікім кармеліцкім кляштары. Вокны яго двух пакояў выходзілі на маленькае возера каля пагорка і на ланцужок маляўнічых сажалак, якія выкапалі прыгонныя кляштара.*

*У Глыбокім Напалеон даведаўся аб тым, што рускія пакінулі Дрысу. Ён паспяшаўся да Віцебска”.*

І ўсё ж вядома, што Напалеон знаходзіўся ў мястэчку Глыбокім – 18, 19, 20, 21 ліпеня, аб чым сведчаць даты пастановаў і загадаў, якія ён падпісаў.

23 ліпеня сярод французскіх войск у Глыбокім назіралася незвычайнае ажыўленне. Разведчыкі першай рускай арміі, якія вялі назіранне за наваколлямі Глыбокага, не маглі зразумець, у чым тут справа. І толькі а другой палове дня, калі вялікія павозкі, у якія было запрэжана па восем—дзесяць коней, пачалі рухацца з Глыбокага на поўдзень, на Докшыцы, разведчыкі з больш блізкай адлегласці ўстанавілі, што гэта была цяжкая артылерыя, якую Напалеон чакаў некалькі дзён і якую тэрмінова накіраваў пад Віцебск. Сам імператар, дачакаўшыся усё ж падыходу цяжкой артылерыі, выступіў з Глыбокага ў ноч на 24 ліпеня, пакінуўшы тут гарнізон, большасць якога была размешчана ў Беразвеччы, шпіталь і склады. Гарнізон нёс варту на дарогах, быў прамежкавым этапам на шляху зносін Напалеона з імперыяй, па якім рухаліся кур'еры імператара.

Значыць, Напалеон прабыў у Глыбокім – без малога тыдзень!

Праз суткі, як Напалеон пакінуў Глыбокае, надзвычай заняты вайсковымі пытаннямі і падрыхтоўкай генеральнай бітвы пад Віцебскам, усё ж напісаў вялікі ліст прызнанаму галаве французскай і заходнееўрапейскай навукі Лапласу, дзе выклаў погляды на меры па развіцці і ўмацаванні навук “у славу імперыі”. Відаць, гэта было зробленае пад уражаннем побыту ў глыбоцкім кляштары Кармелітаў, дзе квітнела навука, медыцына, была аптэка і навучальныя ўстановы.

1 жніўня, пакідаючы Віцебск, Напалеон Банапарт сказаў маркізу Пастэру, які быў прызначаны губернатарам утворанай Беларускай губерні: *“Глядзіце на Беларусь як на хаўрусніцу, а не як на заваяваны край”.*

## Зваротны бок медаля

Пасля ад'езду Напалеона з Глыбокага Алоіз Буйніцкі 24 ліпеня выдаў распараджэнне Барысаўскай павятовай камісіі аб дастаўцы ў Лепель 6000 цэнтнераў мукі для забеспячэння напалеонаўскай арміі. 30 ліпеня Буйніцкі загадаў докшыцкаму камісару Ваньковічу адкрыць у Глыбокім склад і даставіць туды правіянт.

*«Паводле распараджэння найвышэйшага імператара Францыі і караля прапанавана адкрыць правіянцкі магазін у Глыбокім, да якога далучыць бліжэйшыя мясцовасці, як Куксін, Ваўшчызна, Жаўняроўшчына, Янушаў з фальваркамі Замошша, што рэквізаваныя і таму вызвалены ад іншых распараджэнняў, якія паступаюць з Докшыц. Пасля намеснік «докшыцкага камісара, на працягу трох дзён з дня выдання гэтага прадпісання, абавязаны максімальна пастарацца даставіць 150 бочак з мукой ці жытам, 60 бочак аўса, 10 бочак гароху, 2 тысячы гарцаў гарэлкі, 200 валоў, за якімі канвой прыбудзе з Глыбокага». Аднак загады А.Буйніцкага не выконваліся, аб чым сведчыць «Заява пра адсутнасць запасаў у казённых складах і прыватных асоб», падпісаная А.Буйніцкім: «Пастанова Барысаўскай павятовай Камісіі другога аддзела паліцыі ад 24 ліпеня ў маёнтках Ваўшчызна і Слабада прачытана, але ні жыта, аніякай мукі ў свірнах казённых і сялянскіх няма, бо ўсё, што было назапашана, канфіскавана і даставлена ў Вярхоўную стаўку яснавяльможнага імператара Францыі ў Глыбокім, а зараз самі засталіся без харчавання да новага ўраджаю».*

Простае насельніцтва было незадаволенае. Пакідала дамы і ў некаторых месцах усімі вёскамі ішло ў лясы. Такая пазіцыя сялянства стварыла вялікія цяжкасці для забеспячэння французскай арміі фуражом і харчаваннем. Сяляне спынілі выплату падаткаў, і французы абкладалі падаткамі сваіх прыхільнікаў — памешчыкаў, але і тыя таксама адмаўляліся ўносіць іх. Так, 5 жніўня 1812 г. зборшчык падаткаў Грыгаровіч рапартаваў падкамісару докшыцкага кантона аб тым, што глыбоцкі памешчык Буйніцкі адмовіўся плаціць падаткі.

Адыход французаў з раёна Глыбокага прыпадае, як лічыцца, на канец кастрычніка — першую дэкаду лістапада 1812 г. Паводле звестак глыбоцкага краязнаўца А.А.Сабалеўскага, напярэдадні адыходу французаў у Беразвеччы, дзе стаяў гарнізон французаў, толькі для яго патрэбаў дзейнічала хлебапякарня, дзе працавалі мясцовыя жыхары. У пэўны час, прызначаны да адступлення французаў, хлебапёкі Беразвечча прыгатавалі хлеб, дадаўшы ў цеста нягашаную вапну. Большасць салдат памерла, а астатнія пахавалі сваіх паплечнікаў ва ўрочышчы Барок на беразе возера Мушкат і кінуліся на ўцёкі з Беразвечча. Яшчэ і цяпер пры дарозе на вёску Забелле захавалася французская магіла (валатоўка). Пасля адыходу французскіх войск горад Глыбокае застаўся разбураным і разрабаваным.

Ёсць меркаванне, што ліпеньская спёка 1812 года, у дадатак жахлівая антысанітарыя, адкіды і абгрызеныя косткі – усё гэта непазбежна пацягнула за сабой эпідэміі. У жніўні халера касіла ўсіх запар. Адны халерныя могілкі, па іроніі лёсу, знаходзяцца сёння насупраць Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, іншая – каля дарогі Глыбокае-Беразвечча.

Яшчэ ёсць такая досыць непрыемная акалічнасць, як прымаўка – “Каб цябе пранцы!”, г.зн. пажаданне камусьці захварэць на сіфіліс. Прынята лічыць, што такая венерычная хвароба засталася як памяць аб побыце французскіх жаўнераў у нашым краі.

## Пасляслоўе

Побыт Напалеона ў нашым краі спарадзіў нямала легендаў і сямейных паданняў. Гэта – легенды пра залатыя карэты, якія пакоіцца ў праддонях азёраў, нібыта пакінутыя адступаючымі жаўнерамі Вялікага Войска, пра напалеонаўскія скарбы, што схаваныя ў сахнавіцкай пячоры на стромых схілах над Гінькавым возерам… Па ўсёй Беларусі і да сёння чорныя скарбашукальнікі шукаюць легендарныя бочкі з золатам і перлінамі, патопленыя карэты…

Адна глыбоцкая кабета, дзесьці ў 1993 годзе хвалілася аўтару гэтых радкоў, што нібыта яе прапрапрадзед бачыў Напалеона ў Глыбокім, як раз у той момант, як па прыступках у вежы кармеліцкага касцёла ён узнімаўся наверх. Глядзеў з вакна на панараму Глыбокага і ваколіцаў.

Прыходзяць нават сямейныя паданні адтуль , дзе Напалеон хутчэй за ўсё і быць не мог, напрыклад з Германавічаў. Падаў іх унук тамтэйшага шляхціча Шырына – пралат Валер'ян Мейштовіч:

*“Затрымаўся тут Напалеон і стаў хросным бацькам малога Напалеона Шырына. Годам пазьней праходзіў тут цар пераможца і другі з маладых Шырынаў атрымаў імя Аляксандр”.*

*– Заўважым, што Напалеон Шырын нарадзіўся ў 1807 г.,–* кажа гісторык Германавічаў Алесь Адамковіч. *– Вельмі сумнiўна, што да 1812 г. ён быў не хрышчаным . Прыгожае сямейнае паданне, запісанае, дарэчы, у 1930-ыя гг.*

Агульны фон побыту Напалеона ў Глыбокім – дадатны. У розных літаратурных крыніцах нават досыць рамантычны. Некаторыя сцвярджаюць, што Напалеон хацеў зрабіць Глыбокае ледзьве не сталіцай заваяваных тэрыторый. Прыгожы міф!

На гэтым фоне неяк забываюцца рэквізацыі напалеонаўцамі скаціны, пэўныя разбурэнні, якія панёс горад Глыбокае. Было рабаўніцтва і марадзёрства, аб чым сведчыць загад Напалеона ад 20 ліпеня 1812 г аб прызначэнні ваенных судоў для пакарання вінаватых.

Дамінік Радзівіл, які валодаў горадам Глыбокім, вялікі паплечнік французаў, загінуў 11 лістапада 1813 г. у бітве пад Ханаў, калі аўстра-баварскі корпус імкнуўся спыніць Вялікае Войска Напалеона, якое безнадзейна адступала. Але корпус быў разбіты.

Пасля 1813 года пачынаецца русіфікацыя Глыбокага.

# Невядомы госць з космасу





■ Кастусь Шыталь

**Незвычайную з'яву назіралі ўночы з 15 на 16 ліпеня жыхары Глыбоцкага раёна. Шматлікія відавочцы распавядаюць, што светлы аб'ект ляцеў па небе і зваліўся на зямлю з вельмі моцным грукатам.**

Пра гэтую з'яву аўтару гэтых радкоў распавёў гімназіст Даніла Бука з вёскі Валодзькава (Глыбоцкі раён): "Вечарам, гадзін дванаццаць было, пачуў грукат, вокны затрэсліся, задрыжэлі - і святла шмат адразу. Думаў, можа машына дзе ўрэзалася ў дрэва. Выйшаў, паглядзеў – ціха, нікога няма. Сёння мне сябар тэлефануе з Гатаўшчыны. Яго сястра шпацыравала вечарам па вуліцы і бачыла, што ляцела быццам бы камета з хвастом і паляцела ў бок нашых майстэрань [на паўночны ўсход – К.Ш]".

Незвычайную з'яву бачылі і жыхары вёскі Гатаўшчына. "Я быў у дарозе, бачыў яркую ўспышку на небе, секунд пяць, ярка-ярка на небе стала і дзесьці яно звалілася. Я ехаў на машыне, таму гуку не чуў, а малодшая сястра была на вуліцы і праз нейкі час пачула моцны грукат", – распавядае мясцовы жыхар Аляксандр.

Моцны грукат апалове на першую ночы чуў Часлаў Рудак, інжынер з вёскі Мнюта II. "Я толькі чуў. Сёння пачаў распытваць у людзей. Бачылі святло, кшталту шара. Потым святло прапала, праз пяць хвілін адбыўся выбух. У мяне хата затрашчэла і на кухні аж дзверы адкрыліся. Дзесьці вакол нас яно ўзарвалася", – распавёў спадар Часлаў.

Аўтар матэрыялу паспрабуе разабрацца, што насамрэч адбылося апоўначы з 15 на 16 ліпеня. Калі Вы ведаеце якія падрабязнасці, адпішыцеся ў каментарах сайце **westki.info** ці патэлефануйце: +375 29 818 49 06 (Кастусь).

**P.S.** Вогнены шар, як потым стала вядома, бачылі не толькі жыхары Глыбоччыны, але і жыхары Мінска, Віцебска, Вілейкі, Полацка, Лепеля, Слоніма, Любані... На момант падрыхтоўкі гэтага матэрыялу пакуль што невядома, дзе зваліўся на зямлю гэты пасланец космасу. Магчыма, і не на тэрыторыі Беларусі.

# Свята «Фэст на Дзядку»

■ Яўген Самсонаў

**«Мая вёска – у ёй я гаспадар! – пад такім дывізам 15 ліпеня на 7-ым кіламетры шашы Пятроўшчына – Капыльшчына праходзіла свята "Фэст на Дзядку", якое ўжо стала традыцыйным.**

На ім былі ўрачыста ўзнагароджаны лепшыя людзі Узрэцкага і Залескага сельсаветаў, падведзены вынікі конкурсу "Лепшае падвор'е". Артысты мясцовых СДК парадавалі прысутных цікавым канцэртам. "Цвіком" свята быў канкур, у якім спаборнічалі ў асабістым заліку вершнікі коннаспартыўнай школы ААТ "Глыбоцкі мясакамбінат" і "Залатая падкова". Усе жадаючыя маглі пагуляць у таталізатар. Выйгралі тыя, хто зрабіў стаўку на вершніка Віталя Чарэдніка з "Залатой падковы". Цікавай была і спартыўна-забаўляльная праграма. Завяршылася свята аўкцыёнам, на якім усе ахвотныя змаглі набыць прадукцыю мясцовых прадпрыемстваў.

Арганізатары свята: Залескі і Узрэцкі сельвыканкамы, ААТ "Залатая падкова", ААТ "Пятроўшчына", ААТ «Глыбоцкая птушкафабрыка» і Узрэцкае лясніцтва.





Якое свята без перацягвання каната!

# Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) з практыкай у Германскім Бундэстагу

**У 2013 годзе Германскі Бундэстаг таксама прадастаўляе Міжнародную парламенцкую стыпендыю (IPS) выпускнікам вышэйшых навучальных устаноў Беларусі.**

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) прадугледжана для выпускнікоў ВНУ, якія цікавяцца палітыкай, актыўна займаюцца грамадскай дзейнасцю і маюць вельмі добрыя веды нямецкай мовы.

На момант пачатку праграмы яны павінны быць не старэйшымі за 30 гадоў.

Стыпендыяты змогуць прайсці 15-тыднёвую стажыроўку ў аднаго з дэпутатаў Германскага Бундэстага. На перыяд іх 5-месячнага знаходжання яны будуць залічаны ва Універсітэт імя Гумбальдта ў Берліне і атрымаюць магчымасць наведваць вучэбныя заняткі.

Міжнародная парламенцкая стыпендыя (IPS) доўжыцца з 1 сакавіка па 31 ліпеня 2013 г.

Стыпендыя ўключае расходы на праезд, пражыванне і медыцынскую страхоўку, а таксама штомесячную грашовую дапамогу на харчаванне.

Заяўкі на ўдзел у конкурсе прымаюцца да 31 ліпеня 2012 г. у Пасольстве Германіі ў Мінску.

Больш падрабязная інфармацыя на сайце http://www.bundestag.de/IPS

*УНН 101166185*






*Алу Пятроўну Павара*

**Віншуем з юбілеем!**

Ах, юбилей, удивительный день!
Он собирает вокруг всех друзей.
Если труду вы всю жизнь посвятили,
Значит поклон Вы от всех заслужили.
Пусть добрые люди приходят в Ваш дом,
Пусть радость и счастье поселятся в нём.
Весёлая песня всегда пусть звучит,
А сердце и дальше как в 20 стучит.

*Ад Зінаіды Семеж.*

*Уладзіміра Сяргеевіча Гіля*

**Віншуем з юбілеем!**

Пускай здоровье будет крепким,
А сердце вечно молодым!
Пусть каждый день твой будет светлым
На радость нам и всем родным!
Спешим поздравить с Днем рожденья!
Желаем счастья, настроенья,
Успеха, бодрости, удачи,
Здоровья крепкого в придачу.

*Сястра Ала і яе сям'я.*

# Нужна помощь!



**Колбасич Кирилл**

**Диагноз:** Острый миелобластный лейкоз.

Нужны большие средства для пересадки костного мозга за границей (в Германии).

**Помогите!**

**Банк:** Открытое акционерное общество «Сберегательный банк «Беларусбанк». Отделение № 208/208 ЦБУ 208 филиала №216 ОАО «АСБ Беларусбанк» г. Глубокое, ул. Коммунистическая, 8А

Субкорреспондентский счёт № 6100006489066, код 648

Транзитный счёт 3819382309284

Владелец счёта Колбасич Ольга Викторовна.

# Калі сеў на ровар – не забудзься апрануць камізэльку!

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*



Паважаныя ўладальнікі ровараў! Мы лічым сваім абавязкам нагадаць Вам, што з пачаткам восені і скарачэннем светлавога дня павялічваецца колькасць наездаў транспартнымі сродкамі на веласіпедыстаў, што прыводзіць да цяжкіх наступстваў, у тым ліку і да гібелі. З мэтай папярэджання дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам веласіпедыстаў мы прапануем усім веласіпедыстам не чакаць наступлення восені, а загадзя набыць святлоадбівальныя камізэлькі і выкарыстоўваць іх не толькі ў начны час, але і днём.

Айчынная прамысловасць выпускае шмат розных відаў ровараў: дарослыя, дзіцячыя, дарожныя, падлеткавыя. З кожным годам выпуск іх у нашай Рэспубліцы павялічваецца. Наяўнасць вялікай колькасці ровараў на дарогах ускладняе ўмовы руху, а невыкананне веласіпедыстамі Правіл дарожнага руху прыводзіць да дарожна-транспартных здарэнняў з цяжкімі наступствамі.

Пры руху веласіпедысты часцей за ўсё дапушчаюць такія парушэнні правіл як:

● праезд скрыжаванняў на забараняльны сігнал святлафора,
● пры ажыццяўленні павароту не падаюць патрабаванага сігналу рукой,
● ажыццяўляюць рух у два шэрагі,
● нечакана выязджаюць на праезную частку дарогі з двароў,
● рухаюцца далей 1 метра ад краю праезнай часткі,
● не заўсёды прапускаюць транспарт рухомы па галоўнай дарозе,
● выязджаюць на паласу сустрэчнага руху,
● язда дзяцей, якія не дасягнулі 14-гадовага ўзросту па вуліцах горада і іншых населеных пунктаў,
● кіраванне роварамі ў стане алкагольнага ап'янення,
● на стан аварыйнасці ўплывае адсутнасць у веласіпедыстаў святлоадбівальных камізэлек, адсутнасць ліхтароў (спераду белага, а ззаду чырвонага колеру) пры перасоўванні па дарогах у цёмны час з сутак.

Звяртаем увагу веласіпедыстаў на тое, што за кіраванне роварамі ў цёмны час сутак без святлоадбівальнай камізэлькі будуць ужывацца самыя строгія меры адміністрацыйнага ўздзеяння ў выглядзе штрафу ад 1 да 3-х базавых велічынь, а калі веласіпедыст будзе знаходзіцца ў стане алкагольнага ап'янення, то штраф складзе 5 базавых велічынь. Раім абсталёўваць з мэтай бяспекі дарожнага руху свае ровары ў адпаведнасці з Правіламі.

**Паважаныя ўдзельнікі дарожнага руху, клапаціцеся пра сваю бяспеку і бяспекі родных і блізкіх.**

# Браканьеры не дрэмлюць

**А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**Штотыдзень, супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымоўваюцца грамадзяне, якія бязлітасна знішчаюць камбайнамі ягаднікі і толькі з адной мэтай, зарабіць грошай, а заўтра няхай хоць воўк траву есць. Пры затрыманні ўсе кажуць, што парушылі закон у першы раз, просяць зразумець становішча, ягады збіралі для сябе, але ці можна паверыць чалавеку, калі ягады ў вядры на палову з лісцем і сукамі.**

Толькі ў перыяд з 4 па 15 ліпеня працаўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за збор ягад забароненым спосабам затрымана больш 40 чалавек. Шмат затрымоўваецца няпоўнагадовых, якія разам з бацькамі збіраюць ягады «камбайнамі», так хіба будзе выконвацца закон, калі самі бацькі з малых гадоў прышчапляюць у дзяцей непавагу да закона.

6 ліпеня 2012 года працаўнікамі міжрайінспекцыі на тэрыторыі Галубіцкай пушчы за незаконны збор ягад чарніцы «грабянцамі» затрымана 9 грамадзян, жыхароў Глыбоцкага раёна, Мёрскага раёна, г. Віцебска і г. Полацка.

Толькі за адну раніцу 9 ліпеня 2012 года ў перыяд часу з 6 гадзін да 8 гадзін працаўнікі міжрайінспекцыі ва ўрочышчы Жданы Дунілавіцкага лясніцтва затрымалі 7 жыхароў Пастаўскага і Докшыцкага раёнаў, якія збіраюць ягады «грабянцом».

11 ліпеня 2012 года пры правядзенні чарговага рэйду на тэрыторыі Дунілавіцкага лясніцтва інспектары затрымалі на працягу 10 хвілін 4 жыхароў г.п. Варапаева і 2 жыхароў Докшыцкага раёна за збор ягад «грабянцом».

15 ліпеня 2012 года на тэрыторыі Галубіцкай пушчы супрацоўнікі інспекцыі затрымалі 6 грамадзян за незаконны збор ягад «грабянцом», трое з іх жыхары г.п. Падсвілле.

Усе затрыманыя пакараныя штрафамі ў памеры ад 100 тысяч да 1 млн. рублёў, а яшчэ за кожны сабраны 1кг. ягад налічваецца ўрон у памеры 220 тысяч рублёў. Слушна ўзнікае пытанне, а ці трэба парушаць закон і плаціць такія грошы за адзін кілаграм ягад.

Падчас правядзення рэйдаў па лясах заўсёды звяртаеш увагу на месцы стаянкі аўтамашын у лесе. Вакол раскіданыя пластыкавыя бутэлькі, побытавае смецце, рэшткі ежы. Хутка нашы лясы ператворацца ў звалкі, людзі, задумайцеся, што Вы робіце, няўжо ў сябе дома Вы гэтак жа выкідваеце смецце.

Не дрэмлюць і іншыя браканьеры. Так, 9 ліпеня 2012 года інспектарамі міжрайінспекцыі ў 12 гадзін дня ў в. Гатаўшчына Глыбоцкага раёна, за незаконную лоўлю рыбы бродніком на штучным вадаёме затрыманы двое мясцовых жыхароў, матэрыялы накіраваны ў раённы суд.

У ноч з 10 на 11 ліпеня 2012 года інспектарамі сумесна з вайскоўцамі аддзела памежнай службы «Паставы» і работнікамі Пастаўскай РГГА «БТПР» зблізку в. Палессе Пастаўскага раёна затрыманы мясцовы жыхар грамадзянін П., які ажыццяўляў незаконнае паляванне на дзікіх жывёл з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбай, зброя здадзена ў РАУС, матэрыялы накіраваныя ў раённы суд.

11 ліпеня 2012 года каля 17 гадзін супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ўжо на тэрыторыі Докшыцкага раёна паблізу в. Бярозаўка, на рацэ Поня затрыманы жыхар г. Лагойска за незаконную лоўлю рыбы сеткай, а затым двое мясцовых грамадзян за незаконную лоўлю рыбы бродніком, матэрыялы ў адносінах парушальнікаў накіраваны ў раённы суд.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз заклікае грамадзян да выканання прыродаахоўнага заканадаўства.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі ўдзячныя грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў нашай рабоце, людзям, якія неабыякавыя да захавання нашай прыроды.

Тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.



# Раскрыты разбойны напад на таксіста ў Полацкім раёне 12 ліпеня

**Праваахоўныя органы раскрылі разбойны напад на таксіста ў Полацкім раёне, якое было ўчынена 12 ліпеня.**

Нагадаем, вечарам 12 ліпеня ў Полацкі РАУС звярнуўся мясцовы таксіст, індывідуальны прадпрымальнік, 1978 года нараджэння. Мужчына расказаў, што каля вёскі Тросна невядомы, якога ён падвозіў на сваім «Сітраене», з прымяненнем нажа забраў у яго 460 тысяч рублёў. Таксіст шпіталізаваны з колата-рэзанымі ранамі грудной клеткі, брушнай поласці, галавы і правага сцягна.

Больш падрабязна акалічнасці злачынства паведамілі 16 ліпеня ў аддзяленні інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Віцебскага аблвыканкама.

Мужчына, які папрасіў таксіста давезці яго на возера ў вёску Тросна, недалёка ад гэтага населенага пункта, замест аплаты па лічыльніку напаў на вадзіцеля таксі з нажом. Дапамогу пацярпеламу аказалі людзі, якія адпачывалі каля возера: яны выклікалі міліцыю і хуткую дапамогу. Індывідуальны прадпрымальнік быў дастаўлены ў бальніцу са шматлікімі колата-рэзанымі ранамі.

Следча-аператыўная група пад кіраўніцтвам намесніка начальніка крымінальнай міліцыі абласнога УУС правяла вялікую працу па ўстанаўленні асобы нападніка — старанны агляд месца здарэння, адпрацоўка запісаў дзясятка відэакамер вонкавага назірання полацкага вакзала (менавіта там ён сеў у аўтамабіль таксіста) далі свае вынікі. Узаемадзеянне аператыўных служб УУС, Полацкага раённага і гарадскіх аддзелаў, экспертна-крыміналістычнага падраздзялення і Следчага камітэта дазволіла на працягу двух сутак назваць падазронага. Гэта жыхар Полацка 1987 года нараджэння. Распачата справа па прыкметах злачынства, прадугледжанага ч. 3 арт. 207 КК (разбой). Мужчына затрыманы.

У абласным УУС адзначаюць, што напады на таксістаў у апошнія гады — рэдкая з'ява. Падобны выпадак здарыўся на тэрыторыі Расонскага раёна ў 2009 годзе. Два хлопцы ў стане алкагольнага ап'янення забілі вадзіцеля таксі з Навааполацка. Як высветлілася, маладымі людзьмі кіравала жаданне завалодаць аўтамабілем. Тады праваахоўным органам удалося хутка раскрыць злачынства дзякуючы таксістам.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# Белкаапсаюз закупіў у насельніцтва чарніц на трацінy больш, чым летась

**На 13 ліпеня ў насельніцтва закуплена 2,4 тыс. тон чарніц, што на 30% больш, чым на аналагічную дату ў 2011 годзе. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Белкаапсаюза.**

Кошт 1 кг ягад складае ад 15 да 20 тыс. рублёў. Найбольш актыўна закупляюць чарніцы прадпрыемствы Брэцкай (470 тон), Гродзенскай (420 тон) і Мінскай (415 тон) абласцей. Плануецца, што нарыхтоўка гэтых ягад будзе доўжыцца да канца ліпеня.

Прадпрыемствы таксама актыўна закупляюць чырвоныя і чорныя парэчкі. Чырвоныя прымаюць, у залежнасці ад раёна, па 3—5 тыс. рублёў за кілаграм, чорныя — па 3—5,5 тыс. Вішню і чарэшню прымаюць па 3,5—5 тыс. за 1 кг. Гэтых ягад нарыхтавана 75 тон, што ў 1,7 разу больш, чым на аналагічную дату ў 2011 годзе.

Акрамя таго, прадпрыемствы кааперацыі завяршылі нарыхтоўку суніц садовых (клубніц), у два разы перавысіўшы паказчык 2011 года (1,8 тыс. тон, або 203%). У тым ліку клубніц таварных нарыхтавана 360 тон, што ў 4,7 разу больш, чым летась.

Вядзецца нарыхтоўка агародніны. Кошт агуркоў, якіх ужо нарыхтавана 3,2 тыс. тон, складае 2—2,5 тыс. рублёў, капусту прымаюць па 3,5 тыс. за 1 кг. Яе нарыхтавана 1,6 тыс. тон. Таматы прадпрыемствы закупляюць па 9—10 тыс. рублёў за 1 кг.

Пачалася нарыхтоўка грыбоў. Кошт 1 кг лісічак складае 20—25 тыс. рублёў.

*Марына Носава, БелаПАН*

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 23 ліпеня




**06.00**,07.10,07.35, 08.15, **08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00,23.45** Новости.
**07.05**, **08.05** Зона Х.
**07.30**,**08.30**Деловая жизнь.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Время Союза.
**11.00** Док.цикл «Первая любовь: несказанные слова».
**12.10** **«Маргоша»**
**14.05** Мультфильмы **«Ну, погоди!».**
**14.45** «Маляваны рай».
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** «Томас Андерс».
**16.20** **«Широка река»**
**17.20«Маруся.Возвращение»**
**18.15** Арена.
**18.45**, **23.35** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Сваты-5»**
**21.00** Панорама.
**21.45** **«За все тебя благодарю-2»**
**22.45** **«Доктор Хаус-6»**
**00.05** День спорта.
**00.15** Фантастическая комедия **«Где моя тачка, чувак?»**




**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Вечный зов» Ады Роговцевой».
**12.05** **«Сердце Марии»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать»
**13.40**«Контрольн.закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Китайский сервизъ».**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Владислав Голубок. Шекспир из народа».
**19.05** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера **«Дом образцового содержания».**
**22.15** **«Закрытая школа»**.
**23.20** «Русалим. В гости к Богу».
**00.20** «Детектор лжи».
**01.10-01.40** Ночные новости.






**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Навіны надвор'я.
**09.35** **«Безумцы-4»**
**10.40** Экстрасенсы ведут расследование.
**11.55** **«Ко мне, Мухтар!»**
**13.35** Бухта капитанов.
**14.15** Мультсериал **«Семейка пиратов»**
**15.00** Под грифом «Известные».
**15.35** **«Мужчина во мне»**
**16.45«Тень самурая»**. 1 с
**17.50** **«Безумцы-4»**
**18.55«Костолом или «Сердитая машина»**
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Тень самурая»**. 1с
**22.35** **«Мужчина во мне»**
**23.35** Экстрасенсы ведут расследование.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Огонь любви»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Центральн.регион».
**14.20** «Звездный ринг».
**15.15** Концерт Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Огонь любви»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: **«НА МОСТУ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тайны мира..».
**23.50** «Адская кухня».




**7:00**Тыдзень у«Аб'ектыве»
**7:40** Англійская для дзяцей
**7:45** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра»
**8:00«ПіпіДоўгаяпанчоха»**: 13, 14 серыі
**8:55** Басанож па свеце
**9:20** Дак.гадзіна: «Смерць у каланіяльным стылі. Забойства Патрыса Лумумбы»
**10:15** Euromaxx
**10:40** **«Каралева Бона»**: 7 серыя
**11:40** «CIA: таемныя войны» «Вайна спараджае вайну (1990–2001)»
**12:35** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт
**13:30** Размовы эксперта
**13:55** Лета з дэтэктывам: **«Арол: крымінальная сага»**: 14 серыя
**14:55** Фільматэка майстроў: **«Грамадзянін Гавэл»**
**17:00** Дак.гадзіна: «Смерць у каланіяльным стылі. Забойства Патрыса Лумумбы»
**18:00** Аб'ектыў
**18:10** **«Час гонару»**: 29 с.
**19:00** Аб'ектыў
**19:10** Басанож па свеце
**19:35** Англійская для дзяцей
**19:40** Калыханка для самых маленькіх: «Сцэны з жыцця цмокаў»
**20:00** Аб'ектыў
**20:10** Еўропа сёння
**20:35** Размовы эксперта
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**21:55** Фільматэка майстроў:**«Грамадзянін Гавэл»**
**0:00** Аб'ектыў
**0:25** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэры»**: 2 серыя
**1:10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

## АЎТОРАК, 24 ліпеня




**06.00**, **07.10**, **07.35**, **08.15**, **08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **00.00** Новости.
**07.05**, **08.05** Зона Х.
**07.30**,**08.30** Деловая жизнь.
**09.10** **«За все тебя благодарю-2»**
**10.10** Арена.
**10.40** Мультфильм **«Ну, погоди!».**
**10.50** **«Сваты-5»**
**12.10** **«Маргоша»**
**14.05** **«Доктор Хаус-6»**
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** «Здоровье». Ток-шоу.
**16.15** **«Широка река»** Заключит.серия.
**17.20** **«Маруся. Возвращение»**
**18.15** Сфера интересов.
**18.45**, **23.50** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Сваты-5»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальн.интервью.
**21.55** **«За все тебя благодарю-2»**
**23.00** **«Доктор Хаус-6»**
**00.15** День спорта.
**00.30** Драма **«Я знаю, что ты знаешь»**




**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Между нами, девочками».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Наследство»**. Многосерийн.фильм.
**12.05** **«Сердце Марии»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать»
**13.40** «Контрольн.закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**17.00** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** **«Счастливы вместе»**
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Дом образцового содержания».**
**22.15** **«Закрытая школа»**.
**23.20** «Высоцкий. Последний год».
**00.20** **«Детектор лжи».**
**01.10-01.40** Ночные новости.






**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Тело человека.
**09.40** **«Безумцы-4»**
**10.45** Репортер«Белорусского времечка».
**11.50** Школа ремонта.
**12.55** Экстрасенсы ведут расследование.
**14.05** Бухта капитанов.
**14.45** Мультсериал **«Семейка пиратов»**
**15.35** **«Мужчина во мне»**
**16.40** **«Тень самурая»**. 2-я серия.
**17.50** **«Безумцы-4»**
**18.55** Мелодрама **«В Америке»**(Ирландия-Великобритания).
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Тень самурая»**.2с.
**22.40** **«Мужчина во мне»**
**23.35** Экстрасенсы ведут расследование.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Дорогая передача».
**08.40** «Кино»: Ксения Князева и Александр Тютин в фильме **«НА МОСТУ»**. Украина, 2007 г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Огонь любви»**.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Кино»: **«ХОРОШИЙ»**
**15.35** «Военная тайна».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки». Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Огонь любви»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** «Кино»: **«НЕОКОНЧЕННАЯ ПЬЕСА ДЛЯ МЕХАНИЧЕСКОГО ПИАНИНО».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Автопанорама».
**23.20** Конный спорт. Этап Кубка Наций по конкуру в Риге.
**00.55** **«Убойная сила 4»**.




**7:00** Аб'ектыў
**7:25** Англійская для дзяцей
**7:30** Казкі для дзетак: «Сцэны з жыцця цмокаў»
**7:45** «CIA: таемныя войны» «Вайна спараджае вайну (1990–2001)»
**8:35** **«Час гонару»**:29 сер.
**9:25** Басанож па свеце
**9:50** Еўропа сёння
**10:15** Размовы эксперта
**10:40** «Па кім маўчыць звон?»
**11:05** **«Мой Нікіфар»**
**12:45** Два на два
**13:10** Дак.гадзіна: «Смерць у каланіяльным стылі. Забойства Патрыса Лумумбы»
**14:05** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэры»**: 2 серыя
**14:55** Басанож па свеце
**15:20** Еўропа сёння
**15:45** Гісторыя – на вакацыі: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**16:15** МакраФон
**17:05** «CIA: таемныя войны» «Вайна спараджае вайну (1990–2001)»
**18:00** Аб'ектыў
**18:10** **«Час гонару»**: 30 с.
**19:00** Аб'ектыў
**19:10** Навігатар
**19:25** Паляванне на дзівосы
**19:40** Англійская для дзяцей
**19:45** Калыханка для самых маленькіх:«Фільм са страшнай назвай»
**20:00** Аб'ектыў
**20:10** На колах
**20:35** Прыватная калекцыя
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Беларусы ўПольшчы
**21:40** Форум (ток-шоу)
**22:30** «Трысняговы танец»
**23:35** МакраФон: Канцэрт «Ix N.R.M–ixМроя»:ч. 3
**0:10** Аб'ектыў
**0:35** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэры»**: 3 серыя
**1:20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

АЎТОРАК, 24 ліпеня

## СЕРАДА, 25 ліпеня




**06.00**, **07.10**,**07.35**,**08.15**, **08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**,**00.00** Новости.
**07.05**, **08.05** Зона Х.
**07.30**,**08.30** Деловая жизнь.
**09.10** **«За все тебя благодарю-2»**
**10.05** Сфера интересов.
**10.30** Коробка передач.
**11.00** **«Сваты-5»**
**12.10** **«Маргоша»**
**14.05** **«Доктор Хаус-6»**
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.35** Зона комфорта.
**16.10** Тэлефільм АТН «Клімавічы» цыкла «Зямля беларуская».
**16.25** **«Начать сначала. Марта»**. 1-я серия.
**17.20** **«Маруся. Возвращение»**
**18.15** Земельный вопрос.
**18.45**, **23.50** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Сваты-5»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**21.55** **«За все тебя благодарю-2»**
**23.00** **«Доктор Хаус-6»**
**00.15** День спорта.
**00.30** Биографическая драма **«Отголоски прошлого»**




**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Между нами, девочками».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Наследство»**. Многосерийн.фильм.
**12.05** **«Сердце Марии»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать»
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**17.00** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** **«Счастливы вместе»**
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Дом образцового содержания».**
**22.15** **Закрытая школа**
**23.20** «Своя колея».
**00.30** «Детектор лжи».
**01.20-01.50** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Наперад у мінулае.
**09.40** **«Безумцы-4»**
**10.55** Мелодрама **«В Америке»** (Ирландия-Великобритания).
**12.50** Экстрасенсы ведут расследование.
**14.00** Бухта капитанов.
**14.40** Мультсериал **«Семейка пиратов»**
**15.05** Ешь и худей.
**15.35** **«Мужчина во мне»**
**16.40** **«Тень самурая»**. 3-я серия.
**17.50** **«Безумцы-4»**
**18.55** Спортивная драма «Тренер Картер» (США-Германия).
**21.20** Телебарометр.
**21.25** Спортлото 5 из 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** **«Тень самурая»**. 3-я серия.
**22.40** **«Мужчина во мне»**
**23.35** Криминальн.боевик **«Дрянь»** (СССР).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Автопанорама».
**08.50** «Кино»: **«НЕОКОНЧЕННАЯ ПЬЕСА ДЛЯ МЕХАНИЧЕСКОГО ПИАНИНО».**
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Огонь любви»**.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Холостяки». Сериал.
**14.35** **«Убойная сила 4»**. Сериал.
**15.30** «Час суда с Павлом Астаховым».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Следаки». Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Огонь любви»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** «Кино»: Ольга Фадеева, Елена Полякова, Илья Шакунов и Виталий Линецкий в фильме **«ФАБРИКА СЧАСТЬЯ»**. Украина, 2007 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Добро пожаловаться».
**23.20** **«Убойная сила 4»**. Сериал.
**00.15** «Странное дело».




**7:00** Аб'ектыў
**7:25** Англійская для дзяцей
**7:30** Казкі для дзетак: «Фільм са страшнай назвай»
**7:40** Форум (ток-шоу)
**8:30** **«Час гонару»**: 30 серыя
**9:15** Навігатар
**9:30** Паляванне на дзівосы
**9:50** На колах
**10:15** Прыватная калекцыя
**10:40** Беларусы ў Польшчы
**10:55** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Трысняговы танец»
**12:00** Форум (ток-шоу)
**12:50** Лета з дэтэктывам: **«Афіцэры»**: 3 серыя
**13:40** Навігатар
**13:55** Паляванне на дзівосы
**14:10** На колах
**14:40** Прыватная калекцыя
**15:05** МакраФон: Канцэрт «Ix N.R.M–ix Мроя»ч.3
**15:35** «Трысняговы танец»
**16:40** Беларусы ў Польшчы
**17:00** **«Таямніца крэпасці шыфраў»**: 8 сер.
**17:45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл
**18:00** Аб'ектыў
**18:10** **«Час гонару»**: 31 с.
**19:00** Аб'ектыў
**19:10** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**19:35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:40** Англійская для дзяцей
**19:50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску»
**20:00** Аб'ектыў
**20:10** Праект «Будучыня»
**20:35** Аўтастопам праз Еўропу
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Побач з намі
**21:40** **«Кароль-вінароб»**: 6 серыя
**22:30** «Дэструктыўная арганізацыя», рэпартаж, рэж. Віктар Самойлаў, 2010 г., Беларусь
**22:50** Аб'ектыў
**23:15** Лета з дэтэктывам: **«Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі»**: 6 серыя
**0:05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы



СЕРАДА, 25 ліпеня

## ЧАЦВЕР, 26 ліпеня



**06.00**,**07.10**,**07.35**,**08.15**, **08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**,**23.50** Новости.
**07.05**, **08.05** Зона Х.
**07.30**,**08.30**Деловая жизнь.
**09.10** **«За все тебя благодарю»**
**10.10** Земельный вопрос.
**10.35** Мультфильм **«Ну, погоди!».**
**10.55** **«Сваты-4»**
**12.10** **«Маргоша»**
**14.05** **«Доктор Хаус-6»**
**15.15**,**19.20**Новостирегиона.
**15.35** Врачебные тайны
**16.10** «Гомель»
**16.25** **«Начать сначала. Марта»**. 2-я серия.
**17.20«Маруся.Возвращение»**
**18.15** Сфера интересов.
**18.45**, 23.40 Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Сваты-5»**
**21.00** Панорама.
**21.35** Лондон-2012. Олимпийские игры. Футбол. Беларусь - Новая Зеландия. Прямая трансляция.
**00.05** День спорта.
**00.20** **«Доктор Хаус-6»**



**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Между нами, девочками».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Наследство»**. Многосерийный фильм.
**12.05** **«Сердце Марии»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать»
**13.40** «Контрольная закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10** **«Обручальное кольцо»**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**17.00**«Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20«Счастливы вместе»**
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Дом образцового содержания».**
**22.15«Закрытая школа»**.
**23.20** «Олимпиада. Прогнозы и ставки».
**00.20** «Детектор лжи».
**01.10-01.30** Ночные новости.





**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Ешь и худей.
**09.35** **«Безумцы-4»**. Заключит.серия(США).
**10.40** «Откровения».
**11.20** Бухта капитанов.
**12.00** Мультсериал **«Семейка пиратов»**
**12.50** Ешь и худей.
**13.20** **«Мужчина во мне»**
**14.25** **«Тень самурая»**.4-я с., заключительная.
**15.40** **«Безумцы-4»** Заключит.серия.
**16.40** Лондон-2012. Олимпийскиеигры.Футбол. Испания - Япония. Прямая трансляция.
**18.55** Футбол. Лига Европы УЕФА. Гомель (Беларусь) – Ренова (Македония). Прямая трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** **«Тень самурая»**. 4 сер.,заключительная.
**22.40** **«Мужчина во мне»**
**23.35** Психологическая драма **«Последняя поездка»**
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: **«КИРПИЧ»**.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Автопанорама».
**23.20** Конный спорт. Этап Кубка мира по конкуру в Риге.
**00.25** **«Убойная сила 4»**.





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30**«Добропожаловаться».
**08.50** **«ФАБРИКА СЧАСТЬЯ»**
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Огонь любви»**.
**13.30** «24 часа».
**13.50** **«Холостяки».**
**14.35** **«Убойная сила 4**
**15.30** «Час суда...».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Следаки».** Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Огонь любви»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».



**7:00** Аб'ектыў
**7:25**Англійская для дзяцей
**7:30** Казкі для дзетак: «Чацвёра вушэй у пераляску»
**7:40** **«Таямніца крэпасці шыфраў»**: 8 серыя
**8:25** Побач з намі
**8:40** **«Час гонару»**: 31 с.
**9:25** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**9:55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**10:00** Праект «Будучыня»
**10:30**АўтастопампразЕўропу
**10:50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл
**11:00«Кароль-вінароб»**6с
**11:45** «Дэструктыўная арганізацыя»
**12:10** **«Бульбаны»**, мультсерыял
**12:20** **«Таямніца крэпасці шыфраў»**: 8 с
**13:05** Побач з намі
**13:20** Лета з дэтэктывам: **«Фальшыўманетнікі. Вяртанне «Зграі»**:6с
**14:05** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**14:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**14:40** Праект «Будучыня»
**15:10** **«Кароль-вінароб»**: 6 серыя
**15:55** Аўтастопам праз Еўропу
**16:15** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл
**16:30** «Дэструктыўная арганізацыя»
**16:50** Моўнік
**17:05** **«Акварыум»**: 3 сер.
**18:00** Аб'ектыў
**18:10** **«Час гонару»**: 32 с.
**19:00** Аб'ектыў
**19:10** «Тэра постсаветыка. Дагестан»
**19:35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:40** Англійская для дзяцей
**19:50** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак»
**20:00** Аб'ектыў
**20:10** Euromaxx
**20:40** «Людміла Гразнова», рэпартаж
**21:00** Аб'ектыў
**21:25**Паляванненадзівосы
**21:45** **«Дэфект»**: 8 серыя
**22:40** «Архімандрыт»
**23:35** Аб'ектыў
**0:00** Лета з дэтэктывам: **«Фальшыўманетнікі. Вяртанне «Зграі»**:7с
**0:45** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

## ПЯТНІЦА, 27 ліпеня



**06.00**, **07.10**, **07.35**, **08.15**, **08.35** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00**, **12.00**, **15.00**, **19.00**, **00.10**Новости.
**07.05**, **08.05** Зона Х.
**07.30**,**08.30**Деловая жизнь.
**09.10** «Любовь и жизнь моя». Док.фильм
**09.45** Мультфильм **«Ну, погоди!».**
**09.55** Сфера интересов.
**10.25** Журналистское расследование.«Сектор».
**10.55** **«Сваты-5»**
**12.10** Сериал**«Маргоша».**
**14.05** **«Доктор Хаус-6»**
**15.15**,**19.20**Новостирегиона.
**15.25** Док.сериал «Мастер путешествий» (США). «Мюнхен и Бавария».
**16.05** «Все путем!»
**16.30** «Перезагрузка».
**17.15«Маруся.Возвращение»**
**18.10** Зона комфорта.
**18.45**, **00.00** Зона Х.
**19.40** Калыханка.
**19.55**«Звездныеизмены».
**21.00** Панорама.
**21.45** Командировка.
**21.55** **«За все тебя благодарю-2»**
**23.00** «Не толькоженщина знает». Ток-шоу.
**00.25** День спорта.
**00.35** Фильм-катастрофа **«Послезавтра»**



**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Между нами, девочками».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Наследство»**.
**12.05** **«Сердце Марии»**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Хочу знать»
**13.40**«Контрольн.закупка».
**14.10** «Модный приговор».
**15.10«Обручальноекольцо»**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Понять. Простить».
**17.00** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Жди меня».
**18.55** «Поле чудес».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05**«Двезвезды».Лучшее.
**23.35** Фильм «Рабство».
**01.40**-**02.10**Ночныеновости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Черный замок Ольшанский»** 1-я и 2-я серии.



**11.30** Ешь и худей.
**12.05** Страсці па культуры.
**13.05** **«Летние впечатления о планете Z»**
**15.35** Бухта капитанов.
**16.15** Мультсериал **«Семейка пиратов»** Заключит.серия.
**16.35** Женсовет.
**17.10** Белорусская кухня.
**17.50** «Река жизни»
**18.55** **«Поймать вора»**
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО
**21.30**Премьера.Док.фильм «Стать первым»
**22.30** Лондон-2012. Дневник Олимпиады. Прямая трансляция.
**23.00** Лондон-2012. Торжественная церемония открытия XXX летних Олимпийских игр. Прямая трансл.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Автопанорама».
**08.50** «Кино»: **«КИРПИЧ»**. США, 2005 г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** **«Огонь любви»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** **«Холостяки»**
**14.35** **«Убойная сила 4»**. Сериал.
**15.30** «Час суда».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Следаки»**. Сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Огонь любви»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00**«Столичн.подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** **«КАК ЖЕ-НИТЬСЯ И ОСТАТЬ-СЯ ХОЛОСТЫМ».**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00**«Секретныетерритории».
**23.50** «Европейский покерный тур».
**00.35**«Романовы. Падение монархии».



**7:00** Аб'ектыў
**7:25**Англійская для дзяцей
**7:30** Казкі для дзетак: «Аблавушак»
**7:40** **«Акварыум»**: 3 сер.
**8:30** Гісторыя пад знакам Пагоні
**8:40** **«Час гонару»**: 32 сер
**9:30** «Тэра постсаветыка. Дагестан»
**9:55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**10:00** Euromaxx
**10:30** «Людміла Гразнова», рэпартаж
**10:45**Паляванне надзівосы
**11:05** **«Дэфект»**: 8 серыя
**11:55** «Архімандрыт»
**12:50** МакраФон: Канцэрт «Ix N.R.M – іх Мроя» ч. 3
**13:25«Акварыум»**: 3 сер.
**14:15** Лета з дэтэктывам: **«Фальшыўманетнікі. Вяртанне«Зграі»**:7серыя
**15:05** «Тэра постсаветыка. Дагестан»
**15:35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**15:40** Euromaxx
**16:10** «Людміла Гразнова», рэпартаж
**16:25** Моўнік
**16:40** Паляванне на дзівосы
**17:00** **«Кароль-вінароб»**: 6 серыя
**17:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**18:00** Аб'ектыў
**18:10** **«Прыстань»**: 8 сер.
**19:00** Аб'ектыў
**19:10** Беларускія лёсы: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь
**19:40** Англійская для дзяцей
**19:45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда»
**20:00** Аб'ектыў
**20:10** На колах
**20:35**«Апантаныя»дак.цыкл
**20:50** Гарадзенскія вандроўкі Пачобута
**21:00** Аб'ектыў
**21:25**«Генерал няскончанай вайны» ч. 1
**22:00** **«Лэдзі ўдачы»**
**23:45** Размовы эксперта
**0:10** Аб'ектыў
**0:35** **«Дэтэрмінатар»**: 7 с.
**1:20** Вагон

## СУБОТА, 28 ліпеня




**07.00**Доброеутро,Беларусь!
**09.00,12.00,15.00, 19.00** Новости.
**09.10** Здоровье.
**09.55 «Заколдованный участок»** Закл. серия.
**10.55**«Мастер путешествий»
**11.30** «Все путем!»
**12.10** Детективный сериал **«Жизнь и приключения Мишки Япончика»** (Россия).
**14.15** Вокруг планеты.
**15.10** Новости региона.
**15.30 «Жизнь и приключения Мишки Япончика»** (Россия). Заключит.серии.
**17.30** Зона Х. Итоги недели.
**18.05** Ваше лото.
**18.45**Лотерея«Пятерочка».
**19.10 «Деньги для дочери»**
**21.00** Панорама.
**21.40 «Трансформеры»**
**00.05** День спорта.
**00.15** Концерт группы «The Cavern Beatles».




**07.00** «Субботнее утро».
**08.00,09.00** Наши новости.
**09.05 «Моя жена меня приворожила»**
**09.30** «Здоровье».
**10.15** «Смак».
**10.55**«Смешарики.ПИНкод».
**11.10 «Время желаний».**
**13.00** «Обратный отсчет». «Беларусь 1812. Ошибка Наполеона».
**14.00 «Перекресток».**
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Марк Шагал. Нереальнаяреальность».
**17.10 «Хиромант».**
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. Юбилейный вечер певца и композитора Сергея Трофимова.
**22.55 «Все ради нее».**




**08.00** Лондон-2012. Торжеств.церемония открытия XXX летних Олимпийских игр.
**10.30** Лондон-2012. Дневник Олимпиады. Прямая трансляция.
**10.55** Лондон-2012. Баскетбол.Женщины. Китай – Чехия. Прямая трансляция.
**12.50** Лондон-2012. Плавание.Гребля академическая.
**16.10** Лондон-2012. Бокс. Стрельба пулевая. Велоспорт. Тяжелая атлетика.Прямая тран.
**19.10** Лондон-2012. Дневник Олимпиады. Прямая трансляция.
**19.30** Лондон-2012. Теннис.Прямая трансляц.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Лондон-2012. Плавание.Прямая трансл.
**23.10** Лондон-2012. Дневник Олимпиады. Прямая трансляция.
**23.30** Лондон-2012. Гимнастика спортивная. Бокс. Прямая трансл.




**06.20**«Секретныетерритории».
**07.10** «Анфас».
**07.25**«Дальниеродственники».
**07.35 «Солдаты-14».**
**09.10**«Я путешественник».
**09.35** «Чистая работа».
**10.25** «Минск и минчане».
**11.00 «КАК ЖЕНИТЬСЯ И ОСТАТЬСЯ ХОЛОСТЫМ»**
**12.40**«Приключ.дилетанта».
**13.10«ГАРАЖ»**.СССР,1979
**15.00** «Военная тайна».
**16.00** «Опасная луна».
**16.30** «24 часа».
**16.45** «Наше дело».
**17.00** «Громкое дело».
**17.25 «ЧЕТВЕРТАЯ ГРУППА»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10 «ЭКВИЛИБРИУМ»**.
**22.10** «Звездный ринг».
**23.10 «Зачем тебе алиби?»**. Сериал.




**7:00** Аб'ектыў
**7:25** Англійская для дзяцей
**7:30** Казкі для дзетак
**8:00«ПіпіДоўгаяпанчоха»**:
**8:30 «Мой родны горад»**:
**8:55** Размовы эксперта
**9:15** Навігатар
**9:25** Прыватная калекцыя
**9:50** На колах
**10:20 «Прыстань»**:8серыя
**11:00 «Акварыум»**:3серыя
**11:50**Англійская длядзяцей
**12:00** Казкі для дзетак
**12:30 «Піпі Доўгаяпанчоха»**: 15 серыя
**13:00** Беларускія лёсы: «Амаль забыты фатограф», дак. фільм, 2012 г., Беларусь
**13:25 «Дэтэрмінатар»**:7 с
**14:10** «Генерал няскончанай вайны», ч. 1
**14:45** МакраФон: Канцэрт «Іх N.R.M –іх Мроя»ч3
**15:20 «Лэдзі ўдачы»**
**17:05 «Чарцюк з сёмага класу»**: 5 серыя
**17:50** Гарадзенскія вандроўкі Пачобута
**18:00** Аб'ектыў
**18:05 «Дэфект»**: 8 серыя
**19:00** «Апантаныя», дак. цыкл
**19:10** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**19:40** Англійская для дзяцей
**19:45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра»
**20:00** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:10** Еўропа сёння
**20:40** Побач з намі
**21:00** Аб'ектыў
**21:15** «Браты-ворагі» , дак. серыял: 8 серыя
**21:45** Суботні сеанс: **«Маўчанне Лорны»**
**23:30** Аб'ектыў
**23:45** Лета з дэтэктывам: **«Арол: крымінальная сага»**: 15 серыя
**0:40** Жаўтуха

СУБОТА, 28 ліпеня



## НЯДЗЕЛЯ, 29 ліпеня




**06.55** Існасць.
**07.20«Деньги для дочери»**
**09.00,12.00,15.00**Новости.
**09.10** Арсенал.
**09.40**«Астравоксакральнасці»
**09.50** Комедийный сериал **«Байки Митяя»**1,2с.
**11.00** Зона Х.
**11.30** Мультфильмы **«Ну, погоди!».**
**12.10** Врачебные тайны
**12.55** «АнастасияСтоцкая».
**14.05** Время Союза.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Коробка передач.
**16.00** Суперлото.
**16.50** Лондон-2012. Олимпийские игры. Футбол. Бразилия - Беларусь.
**18.55«Презумпция вины**
**21.00** В центре внимания.
**21.55** «Полнейший общепит».
**22.30 «Перекресток»**
**00.15** Комедийный сериал **«Байки Митяя»**1-2с




**07.00** «Воскресное утро».
**08.00, 09.00**Наши новости.
**09.05** Воскресная проповедь (с субтитрами).
**09.20 «Моя жена меня приворожила»**
**09.55**«Непутевыезаметки».
**10.15** Пока все дома.
**11.10** «Фазенда».
**11.45** «Надежда Румянцева. Одна из девчат».
**12.50«Неподдающиеся».**
**14.20**«КВН».Премьер-лига.
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Народная медицина.Испытанона себе».
**17.20** Все хиты«ЮморFM».
**19.00** «Биополе. Невидимая сила».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Большая разница».
**22.10** Премьера. **«Дом на краю».**
**00.05-01.45 «Человек с бульвараКапуцинов».**




**07.25** Лондон-2012. Волейбол. Женщины. США – Корея.
**09.00** Лондон-2012. Баскетбол. Женщины. Австралия – Великобритания.
**10.30** Лондон-2012. Дневник Олимпиады. Прямая трансляция.
**11.00** Лондон-2012. Теннис настольный. Гребляакадемическая. Стрельба пулевая. Плавание. Прямая трансляция.
**14.50** Лондон-2012. Теннис. Прямая трансляция.
**18.20** Лондон-2012. Тяжелая атлетика. Прямая трансляция.
**19.10** Лондон-2012. Дневник Олимпиады. Прямая трансляция.
**19.30** Лондон-2012. Баскетбол. Мужчины. Испания - Китай. Прямая трансляция.
**20.30** Лондон-2012.Фехтование. Сабля. Мужчины. Прямая трансляция.
**21.15** Спортлото 5 из 36.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Телебарометр.
**21.30** Лондон-2012. Плавание. Прямая трансляция.
**23.10** Лондон-2012. Дневник Олимпиады. Прямая трансляция.
**23.30** Лондон-2012. Футбол. Мужчины. Испания - Гондурас.






**06.20** «Тайны мира...».
**07.10** «Дальние родственники».
**07.25 «Солдаты-14».**
**09.00** «Автопанорама».
**09.30** «100 процентов».
**10.25** «Большой завтрак».
**11.05** «Кино»: **«ЭКВИЛИБРИУМ»**.
**13.00** «Здравствуйте, доктор».
**13.35 «БЕРЕГИСЬ АВТОМОБИЛЯ»**.
**15.15** «Такова судьба».
**16.00**«Централн. регион».
**16.30** «24 часа».
**16.50** Концерт Михаила Задорнова.
**19.00** «Автопанорама».
**19.30** «Неделя».
**20.40** «Фильм недели»: **«ПАРНИ ПОБОКУ»**.
**22.45** «Адская кухня».
**00.05** «Арт-хаус»: **«ВО ВСЕЙ КРАСЕ»**




**7:00** Аб'ектыў
**7:15** Англійская для дзяцей
**7:20** Казкі для дзетак
**7:50 «Піпі Доўгаяпанчоха»**:16 с
**8:15 «Мой родны горад»**: 16 серыя
**8:40** «Апантаныя», дак. цыкл
**8:50** Побач з намі
**9:05 «Дэфект»**: 8 серыя
**10:00** Еўропа сёння
**10:25 «Чарцюк з сёмага класу»**: 5 серыя
**11:15** Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**11:40** Англійская для дзяцей
**11:45** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра»
**12:15 «Піпі Доўгаяпанчоха»**: 16 серыя
**12:45** Лета з дэтэктывам: **«Арол: крымінальная сага»**: 15 серыя
**13:40** Прыватная калекцыя
**14:05** «Браты-ворагі» , дак. серыял: 8 серыя
**14:35** Аўтастопам праз Еўропу
**14:50 «Маўчанне Лорны»**
**16:30** Форум (ток-шоу)
**17:20** «Апошняя змова Сталіна»
**18:15 «Каралева Бона»**: 8 серыя
**19:15** Басанож па свеце
**19:40** Англійская для дзяцей
**19:45** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра»
**20:00** Дак.гадзіна: «Марцэла»
**21:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**21:40** Размовы эксперта
**22:00** Фільматэка майстроў: «Фаду», дак.-музычны фільм
**23:30** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**0:10** Лета з дэтэктывам: **«Арол:крымінальная сага»**: 16 серыя
**1:10 «Бульбаны»**, мультсерыял

**На працягу тыдня ў праграме магчымыя змены. Передрук тэлепраграмы забаронены!**

НЯДЗЕЛЯ, 29 ліпеня



Кліменцій Кожан,
*м. Германавічы.*

# Чарговая сустрэча з маладосцю

**У пачатку ліпеня 1944 года быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў наш край. Глыбокае ляжала ў руінах. Горад быў разбураны на 80%. За час акупацыі на глыбоччыне было поўнасцю знішчана 17 населеных пунктаў, 773 двары, у якіх пражывала 8560 чалавек. На франтах Вялікай Айчыннай вайны загінуў 1381 жыхар раёна, у партызанскіх атрадах і падполлі – 320 чалавек. 899 чалавек было ўзята ў фашысцкае рабства, толькі 555 з іх вярнуліся дадому.**

Да аднаўлення горада былі прыцягнуты ўсе рабочыя і служачыя мясцовых прадпрыемстваў і ўстаноў, а таксама непрацуючае насельніцтва з абавязковай адпрацоўкай 40 гадзін у квартал. Адраджэнне раёна ў 1944-1945 гадах праходзіла пад лозунгамі: "Усё для фронта, усё для перамогі над ворагам!", "Працаваць не толькі за сябе, але і за таварыша, які пайшоў на фронт!", "У працы, як у баі!" Жыхары раёна здавалі хлеб, мяса, зерне са сваіх асабістых запасаў у фонд арміі. Райвыканкам арганізаваў адпраўку прадуктаў на фронт.

Нямецкія акупанты знішчылі многа школ разам са школьным абсталяваннем, а ўцалелыя школьныя будынкі патрабавалі значнага рамонту. Не хапала настаўнікаў для ўсіх тыпаў школ. І тады было вырашана на ўскраіне горада ў прыгожым трохпавярховым будынку адкрыць Глыбоцкае педагагічнае вучылішча. Паступілі ў яго ў асноўным перарosткі. Вучыцца было цяжка. Не хапала харчавання, адзення, падручнікаў, сшыткаў. Але моладзь прыйшла сюды з моцным жаданнем вучыцца, стаць настаўнікамі пачатковых класаў.

Вось што пісаў інспектар педвучылішч Народнага Камісарыята асветы БССР Зяневіч у справаздачы аб выніках абследавання работы Глыбоцкага педвучылішча на 11-14 студзеня 1945 года: "Глыбоцкае педвучылішча арганізавана ў 1944 годзе. Праведзены набор навучэнцаў у першы клас і на падрыхтоўчае аддзяленне. Заняткі пачаліся 5 кастрычніка 1944 года. На дзень абследавання мелася 5 груп першага класа, дзе навучалася 153 чалавекі і дзве групы падрыхтоўчага аддзялення з лікам навучэнцаў 50 чалавек. Заняткі вядуцца ў адну змену. Педвучылішча размешчана ў адным трохпавярховым будынку. У ім знаходзяцца вучэбныя аўдыторыі, інтэрнат для навучэнцаў і кватэры выкладчыкаў. Увесь будынак забяспечаны электрычным асвятленнем, утрымліваецца ў належнай чысціні і ў больш марозныя дні ацяпляецца. Вучэбныя аўдыторыі і пакоі інтэрната ацяпляюцца самімі навучэнцамі. Недастаткова забяспечана вучылішча мэбляй, асабліва патрэбнасць адчуваецца ў лаўках ці табурэтках. У некаторых групах навучэнцы стаяць і ў час урокаў." (Дзяржаўны архіў у г. Глыбокае. Фонд 128. Вопіс 1. Справа 3. Ліст 36)

Інспектар педвучылішч Зяневіч вельмі коратка і сціпла напісаў аб стане спраў у Глыбоцкім педвучылішчы. Таму цікава паслухаць былых выпускнікоў навучальнай установы. Гертруда Віктараўна Паляк з Вялікага Сяла, якая скончыла Шкунцікаўскую сямігадовую школу, паступіла ў Глыбоцкае педвучылішча ў 1946 годзе. Яна ўспамінае той час з вялікім хваляваннем у голасе: "Вокны ў некаторых пакоях былі забіты фанерай. Вымытая падлога зімой тут жа пакрывалася лёдам. Мы да знямогі сядзелі над канспектамі, а ў суботу пешшу за 30-40 кіламетраў дабіраліся ў родныя вёскі. Летам хадзілі босымі. Туфлі абувалі перад самім Глыбокім. Паркалёвая сукенка была самым прыгажэйшым убраннем. Аднак жылі весела. У вучылішчы працавалі розныя гурткі, праходзілі вечары, былі танцы."

Педвучылішча за 1944-1955 гады свайго існавання зрабіла восем выпускаў. Дыпломы настаўніка пачатковай школы атрымалі каля 500 чалавек. Большасць пайшла працаваць у пачатковыя і сямігадовыя школы. Некаторыя прадоўжылі вучобу ў педінстытутах і Беларускім Дзяржаўным універсітэце.

У 1997 годзе, праз 50 гадоў, адбылася сустрэча выпускнікоў Глыбоцкага педвучылішча першага выпуску (1947г). Тады дамовіліся чарговую сустрэчу, але ўжо ўсіх выпускаў, правесці ў 2000-м годзе. За арганізацыю гэтай сустрэчы з вялікім энтузіязмам узяўся выпускнік 1955 года Эдмунд Норбертавіч Гірын. Ён некалькі гадоў ездзіў па раёнах Беларусі, збіраў адрасы выпускнікоў і звесткі аб іх.

Першая сустрэча выпускнікоў усіх выпускаў адбылася 25 чэрвеня 2000-га года ў будынку СПТВ-168 (цяпер прафліцэя). На гэтую сустрэчу прыехала каля 50 чалавек. Не ўсе пазнавалі адзін аднаго.

Многія выпускнікі Глыбоцкага педвучылішча звязалі свой працоўны і жыццёвы шлях з Шаркоўшчынскім раёнам. Тут працавалі Еўдакія Іларыёнаўна Кірылава (Атаманчук), Леанід Іванавіч Кожан, Расціслаў Іванавіч Кожан, Іраіда Іванаўна Кожан (Саўчанка), усе трое з адной сям'і вёскі Мар'янполле, Глафіра Лявонцеўна Захарыч (Ваштаёнак), Мікалай Віктаравіч Лабачэўскі, Галіна Аляксандраўна Краміч (Лабачэўская), Галіна Уладзіміраўна Груздзіловіч (Кожан), Яніна Іванаўна Скур'ят (Ардынская), Зоя Мілецеўна Машара (Лаўрыновіч), Анфіса Аляксандраўна Акуневіч (Галуза) і іншыя. На жаль, многія з названых выпускнікоў адышлі ў вечнасць.

Большасць выпускнікоў Глыбоцкага педвучылішча амаль усё жыццё самааддана служылі абранай справе. Яны вылучаліся выдатнай тэарэтычнай падрыхтоўкай, шырокім кругаглядам, высокай культурай, інтэлігентнасцю. Яны былі і застаюцца патрыётамі роднай зямлі.

Дзень сустрэчы для былых выпускнікоў педвучылішча – вялікае свята, бо яны зноў вяртаюцца ў сваю маладосць. Праз дзесяцігоддзі былыя навучэнцы педвучылішча пранеслі самыя светлыя ідэалы і пачуцці, павагу і цеплыню адзін да аднаго.

З кожным годам на сустрэчу прыязджае ўсё менш выпускнікоў. Многія пайшлі з жыцця, многія не могуць прыехаць па стане здароўя. Сёлета, 24 чэрвеня, сабралася толькі 7 чалавек, з іх 6 выпускнікоў 1955 года: Эдмунд Норбертавіч Гірын, Кліменцій Арсеньевіч Кожан, Мар'ян Пятровіч Кордас, Ніна Паўлаўна Краміч, Юлія Вацлаваўна Рынкевіч, Канстанцыя Лявонаўна Шаховіч. Паколькі нас было мала, то сабраліся не ў ліцэі, а на кватэры нашага выпускніка Франца Вікенцевіча Хайноўскага.

Мар'ян Пятровіч Кордас (з 1958 года жыве ў Польшчы) выказаў шкадаванне, што ў апошнія гады не мог прыехаць у Глыбокае. Ён атрымаў вышэйшую адукацыю ў Польшчы, мае ступень магістра рускай філалогіі, выкладаў беларускую і рускую мовы ў Люблінскім універсітэце.

Той, хто ведае аб сустрэчах выпускнікоў Глыбоцкага педвучылішча, няхай не чакае спецыяльнага запрашэння. Калі дазваляе здароўе, прыязджайце ў Глыбокае ў апошнюю нядзелю чэрвеня, да 10 гадзін раніцы. Папярэдне паведаміце аб сваім жаданні паехаць на сустрэчу Эдмунду Норбертавічу Гірыну на адрас: вул. Маставая, д.14, 211926, Лужкі, Шаркоўшчынскі р-н, Віцебская вобласць. Яго хатні тэлефон: 8-02154-3-82-90.



Цяпер на гэтым месцы, дзе студэнты практыкаваліся ў сельскагаспадарчых работах – футбольны стадыён. На дальнім плане – будынак педвучэльні.



Самая папулярная гульня ў Глыбокім у 1930-я–1950-я гг – валейбол. Папулярная гульня была і сярод студэнтаў Глыбоцкай педвучэльні.



Будынак глыбоцкай педвучэльні, быў узведзены ў 1930-ыя гг «за польскім часам» у стылі канструктывізму як жылы дом для «ўжэнднікаў» (ураднікаў) глыбоцкай павятовай адміністрацыі. Ён перажыў вайну і не быў знішчаны немцамі пры адыходзе з Глыбокага, у яго не патрапілі снарады з «кацюшаў», якія ляцелі на горад пры наступленні Чырвонай Арміі.

Гэта быў адзін з прыгажэйшых будынкаў нашага горада, ён узвышаўся над усім горадам, бо стаяў на ўзвышшы, бачны здалёк. І, на жаль, ён быў згублены ўжо ў часы незалежнай Беларусі. На яго месцы нядаўна быў узведзены нягеглы 2-павярховы будынак з сілікатнай цэглы. Вось так мы губляем штогод частку сваёй вялікай глыбоцкай гісторыі. Хаця, хочацца верыць, што настануць іншыя часы, і будынак можна будзе аднавіць...



